аказалася такой неардынарнаю і гарачаю ў пасцелі. І, гладзячы пышныя валасы, тонкую лебядзіную шыю, у меру пышныя грудзі, ён задаў сваё больш істотнае пытанне:

– Хто ты, любая Наталачка? Дзе ты вучышся?

– Студэнтка я, скончыла першы курс інстытута лёгкай прамысловасці. Дызайнерам-мадэльерам буду, – ноткі гонару прагучалі ў ейным голасе. – А ты што скажаш пра сябе, мой непараўнальны, мая неспадзяваная знаходка і таямніца?

Пятро ўзяў Наташыны гладкія далонькі ў свае шурпатыя і коратка распавёў пра сваю працу і прафесійнае захапленне.

Ім абаім было цікава пагаманіць.

– Я адчувала, што ты майстар, – гаварыла Наташа.

– А я, можна сказаць, беспамылкова вызначыў тваю інтэлігентную сферу дзейнасці, – казаў Пятро.

– Мабыць, і год майго нараджэння ты можаш назваць таксама беспамылкова?

– Адназначна: то была якраз тая гістарычная вяха, калі пагарэў Хрушчоў і ўзабраўся на самую вяршыню ўладнае лесвіцы Брэжнеў.

– Так яно і ёсць, мой маг. А я так трапна не змагу. Сам кажы, калі з’явіўся…

– О, я на белы свет з’явіўся тады, як дуба даў вялікі тыран…

Пятро прыціх. Ён чамусьці ўспомніў аднаго знаёмага дзеда-расіяніна, які коратка, з яўнаю антыпатыяй, нават зняважальна характарызаваў вядомых правадыроў: “Сталин – рябой, Хрущёв – байструк, Брежнев – размазня”. Пры гэтым

падумаў, што дарэмна не пацікавіўся ў расіяніна-ветэрана, чаму Леаніда Ільіча назваў размазнёй. Ад кагосьці яму пачулася ў аўтобусе больш дакладнае слова пра генсака Брэжнева: "набздычаны", і тады яму было падумалася пра тое, як народ разбіраецца ў тых, што празмерна любяць уласную ўладу.

Наталля таксама памаўчала, яна думала пра сваё.

– Ці ведаеш ты, – нечакана запыталася яна, – наколькі Пушкін быў старэйшы за Наталлю?

– Ведаю толькі, што Ганчаровай было васямнаццаць, якраз столькі як цяпер табе, мая радасць, – адказаў Пятро, падтрымліваючы зацікаўленую гамонку сумоўцы.

– Уяўляеш, Аляксандр Сяргеевіч быў на трынаццаць гадоў старэйшы за сваю абранніцу, – летуценна падкрэсліла яна.

– Уяўляю і лічу такую дыстанцыю нармальнаю, – сказаў ён.

Поўня, ідучы на захад, паціху апусцілася ніжэй і дастала сваім святлом Наталлю. Яна ляжала, уся голенькая, паверх летняе махровае коўдры поруч з Пятром, павернутая да яго.

Пятро замілавана разглядваў маладзенькае цела смелае юнае асобы, заварожаны красою; упершыню за шмат гадоў з'явілася перад яго вачыма такая жывая карціна. Пры месячным святле яму раптам прымроілася, што перад ім не зямная, а нябёсная істота: так у гэтым начным святле гарманічна спалучаліся залатыя валасы, белыя грудзі, рукі, бёдры. Ён думаў пра тое, як слаба ў мастацтве адлюстроўваецца такое харас-

тво. Праўда, узгадаў ён, хтосьці з маладых мастакоў стварыў карціну “У лазні”, у якой напоўніцу паказана якраз непрыхаваная натуральная краса менавіта маладых прыгажуняў.

Аднак у свядомасці Пятра не сумяшчалася Наташына прыгажосць з яе досведам, таму ён, як бы загодзь просячы прабачэння, сказаў:

– Наталлечка, ты не пакрыўдзіся, калі ласка, ад майго недалікатнага пытання. Мне здаецца, ты не па гадах вопытная. Чаму так?

Наташыны пушыстыя вейкі апусціліся.

– Я ведала, што цябе гэта ўразіць, – выразна, з ноткаю крыўды ў голасе, сказала яна, – ды не баялася гэтага... Ты такі цікаўны, то слухай!

І яна распавяла сваю драматычную гісторыю – пра тое, як яе маці-адзіночка выйшла замуж у чужое сяло і як айчым прыручыў яе, малую падчарку, як падкупіў прысмакамі і прывучыў яе ў адзінаццаць гадкоў забаўляцца з ім... Праз тры гады маці даведалася пра тое і атруціла гвалтаўніка...

– А потым, – працягвала Наташа, ужо гледзячы Пятру ў вочы і не хаваючы ў сваіх вачах маланкі, – быў у мяне аднакласнік, а пасля – аднакурснік. І ўсе такія вопытныя-вопытныя! Уяўляеш?..

– І ты не баішся падзаляцець?.. – яшчэ больш балюча ўдарыў ён.

– З табой не баюся, таму і не засцерагаюся, – цвёрда яна працягвала свой кароткі маналог. – А ўсё таму, што ты мне вельмі спадабаўся. Толькі май на ўвазе: калі што якое, я цябе знайду – і ты будзеш мой навекі вечныя! Разумееш? Ад мяне не ўцячэш і нідзе не схаваешся. Знай, я ўмею помс-

ціць. – Задумалася і дадала: – Не горш як мая маці майму бацьку…

Пятро ляжаў на спіне і глядзеў у столь. А Наталля распачала новую гісторыю. У вёсцы Н. у шавецкай майстэрні шыў і рамантаваў абутак прыгожы малады чалавек, падобны да Сяргея Ясеніна. А ў суседняй хаце жыла непрыгожая перастарка. Яна заўважыла, што ён ні з кім не гуляе, затое ў клубе на танцах так хораша грае на баяне, аж дух займае! І неяк злаўчылася падкаціцца да адмысловага шаўца і музыканта. Дзіва дзіўнае: ён не пагрэбаваў. Пэўна ж, было цёмна… Час ідзе, у старой дзевы, бы тое цеста, жывот расце… А тым часам…

– Стоп, стоп, мілая! – Пятра ўсяго перасмыкнула. Ён не мог паверыць сваім вушам. “Усё чыста супадае” – падумалася яму. Гэта ягоны старэйшы брат – шавец, баяніст, прыгажун – уліпнуў у страшную гісторыю, як у смалу. Замёршы на белай пасцелі, Пятро зараз думаў пра чарнату жыцця, успамінаючы перажытае ў дзяцінстве.

– Адпачні, родненькая, прадоўжыць тваю гісторыю магу я, – сказаў Наташын загадкавы госць і, не чакаючы згоды ад здзіўленай прыгажуні, пачаў свой расповед.

Хлопчыку было тады адзінаццаць гадоў, як да яго матулі на хутар прыходзіла з вёскі кабета (сама малая, а галава вялізная!) і як падоўгу размаўляла, паўтараючы два словы: “цуда амерыканскае”. Пра што ішла гаворка, ён уведаў пазней, калі здарылася непапраўнае… Цяжарная хацела стаць законнаю жонкаю. Маці тады сказала, што

яе разумее, але сына прымусіць не можа. Быў бы жывы бацька, мо было б усё інакш…

Чым бліжэй заставалася да родаў, тым больш агрэсіўнаю рабілася жанчына. Яна ўбачыла, што той, на каго яна ўсё яшчэ спадзявалася, абзавёўся нявестаю, ходзіць з ёю ў кіно і на танцы і калі пачула ад яго, што за жонку возьме тую, дастала ў знаёмага механіка сернай кіслаты. "Зараз я табе ўстрою вясёлую жытуху! – казала яна, збіраючыся праз адчыненае клубнае акно, пры якім седзячы, ён граў на баяне ў часе танцаў, лінуць яму ў вочы ядавітай вадкасці. – Ты ў мяне ўжо дайграўся!" Яго тады людзі добрыя хуценька папярэдзілі і ўратавалі ад бяды. Пра небяспеку ён памятаў, ды не асцерагаўся. А як толькі ажаніўся, яна падпільнавала ўвечары яго, выскачыла з засады з едкаю кіслатою ў руках і ўчыніла зло.

Малога хлопчыка пабудзіў матулін плач. Старэйшы сын начаваў не дома, а ў абласной больніцы, куды яго закінула "Хуткая дапамога". Хлапчук завітаў да брата (упершыню так далёка ездзіў), бачыў яго апухлы твар і забінтаванае вока.

– Не перажывай і маму супакой, скажы ёй, што мне пашанцавала: адным вокам буду бачыць, – суцяшаў малога брата пацярпелы.

А той малы надумаў адпомсціць кабеце, што пакалечыла яго роднага брата і, калі ўбачыў, што яна пайшла ў суседні хутар да сваякоў, назбіраў цэлую шапку камення і, нічога не сказаўшы маці, доўга-доўга дзяжурыў ля сцежкі, па якой яна павінна была вяртацца. Ды яе і будучае дзіця

ўратавала тое, што яна тады не вярталася, а ў сваякоў заначавала.

Наташа знянацку зарыдала, уткнуўшыся тварам у грудзі Пятра, яна зразумела: той адзінаццацігадовы хлопчык быў не хто іншы, а ён сам, Пятро, малодшы брат яе знявечанага бацькі. І вось ён тут, поруч!

– Не плач, Наталлечка! Там, дзе скончылася наша імгненнае, як святло знічкі, узаемнае захапленне, пачнецца вечная крэўная любоў. Праўда, Наталля?

– Сапраўды. Хто ж мы адно аднаму? Я – твая пляменніца па бацькавай лініі, а ты, значыць, дзядзька мой.

Яны, грэшныя, яшчэ доўга распавядалі адно аднаму пра сябе, пра сваіх родзічаў, пра перажытае, як бы спавядаючыся адно перад адным.

## Эпілог

Тым жа летам Пятро паступіў у Мінскі інстытут фізкультуры. Падчас вучобы выступаў за зборную каманду краіны, не раз біў рэспубліканскія рэкорды. Пасля стаў трэнерам. Ажаніўся з журналісткаю. З Наташаю не ліставаўся. Праз год, калі прывёз на экскурсію падапечных спартсменаў у горад свайго юнацтва, хацеў завітаць да яе, але на вакзале сустрэў земляка Грышу, які стаў таксістам, і той паведаміў, што ён год таму вазіў Наташу і яе жаніха ў дзень вяселля і што жаніх павёз яе на Валынь, адкуль сам родам.

Маці Наташына да вяселля адзінае дачкі не дажыла: два турэмныя тэрміны, асабліва другі, падкасілі здароўе.

Бацьку свайго Наталля не клікала на вяселле, як і не звярталася ні разу да яго па дапамогу. Пра гэта Пятро пачуў на радзіме ад брата, які па-ранейшаму шыў і рамантаваў абутак ды гадаваў разам з жонкаю-санітаркаю блізнятаў – дачку і сына. Пры іх доглядзе дажывала свой век хваравітая маці двух сыноў.

*2017*

# ЦАЛІНА

## 1

– Ну, чакай, Чыта, свайго Тарзана, – з’яхіднічаў Зэк і прыгразіў згвалтаванай: – А пра гэта – нікому не пікні, задушу! Цяміш? Ён у азерца кінуў яе споднюю вопратку з плямамі крыві, падцягнуў і зашпіліў свае прыкметна зашмальцаваныя чорныя нагавіцы. Нягледзячы на даволі мажную сваю камплекцыю хутка ўзнімаўся на круты азёрны бераг: як шматвопытны зладзей, спяшаўся змыцца з месца злачынства.

Алеся, перасільваючы галаўны боль, паднялася з цёплага пяску і, плачучы, паспяшалася вылавіць у вадзе яшчэ непатанулую бялізну, памыла яе, выкруціла, апранулася і пайшла, не ведаючы куды, у які бок ісці. Выйшла на дарогу, глянула – непадалёк стаіць той самы грузавік, у кабіне якога яна ехала, і за рулём сядзіць той самы вылюдак... Машына была заведзеная, яна знячэўку тарганулася з месца ды пайшла на яе, шафяруга быў бязлітасны: газануўшы, ледзь не дастаў радыятарам сваю жывую ахвяру, але, калі яна звярнула з дарогі ў стэп, ён адстаў, развярнуўся і пайшоў сваім курсам. Нейкі час няшчасная па інерцыі працягвала рухацца, як п’яная, не цямячы, куды ідзе, і не адразу ўгледзела, як ззяў на сонцы срабрыста-шэры кавыль. Алеся апусцілася на зямлю, міжволі тулячы да вуснаў некалькі пушыстых мяцёлачак. Залюбавалася да самазабыцця простаю стэпаваю раслінаю. І ўпершыню ў жыцці ў яе абудзілася жаданне выказаць тое, праз што пакутавала.

*Ой, кавыль-кавылёк, кавылёчак,*
*у вачах маіх слёзы,*
*Прыняла я ўдар майго жорсткага лёсу.*

Яна здзівілася, што словы загучалі ў думках суладна, знайшлася рыфма. Яе зацікавіла спроба творчасці, словы, бы прыручаныя птушкі, прыляталі з таямнічае прасторы:

*Кавылёк, кавылёчак пяшчотны,*
*Я паранена, сэрца баліць,*
*Памажы, памажы мне, гаротнай,*
*Рану сэрца хутчэй загаіць!*

Занатаваць прыдуманае не было як, бо сумачка з неабходнымі рэчамі засталася ў кабіне машыны. Але хвіліны творчага роздуму сталіся гаючым сродкам-паратункам ад стрэсу.

Калі Алеся паднялася і азірнулася наўкол, то непадалёк убачыла дымок дзякуючы якому неўзабаве апынулася ля вогнішча, дзе казахі з бліжняга аула гатавалі ежу.

На шчасце, яны зразумелі Алесю, калі спытала, як дабрацца да Кустаная, куды яна спяшаецца на ўступны экзамен у інстытут. Хударлявы мужчына адышоўся ад вогнішча, наблізіўся да незнаёмкі, акінуў яе позіркам ды, гладзячы сваю сівую бараду, сказаў, што машын туды ідзе шмат, паабяцаў ёй затрымаць першую сустрэчную.

Казах вывеў разгубленую чужачку на дарогу. Падобна, адчуў, што незнаёмка перажывае цяжкую часіну. І грузавік спыніў не як чужы чалавек,

а як родзіч: прасіў кіроўцу, зазірнуўшы ў вочы, каб завёз яго ўнучку ў Кустанай.

**2**

Седзячы ў кабіне спадарожнай машыны поруч з незнаёмым кіроўцам, Алеся неахвотна адказвала на яго пытанні, ды не таму, што адчувала: ён пытаецца абы не маўчаць, гледзячы на аднастайнасць дарогі і бязлюдных абшараў цаліны, а таму, што перажывала надта свежае пачуццё агіды да грубай жывёльнай сілы ў чалавеку, да вераломства, а таксама пачуццё роспачы ад таго жахлівага, што здарылася: цяпер яна, як гаворыцца ў адной паляшуцкай песні, “не дзеўка, не баба” і папросту можа прыраўняцца да розных там шлюхаў, бо, калі спатрэбіцца, як дакажаш, што ўсё здарылася насамрэч гвалтам, а не па яе добрай волі.

Канешне, ёй страшна не пашанцавала з гэтым нелюдзем. Але ж і сама яна – даўбешка несусветная! Спяшалася, спытала ў транспартнай канторы, тупіца, калі адправіцца з трэста ў Кустанай бліжэйшая машына, а не пацікавілася, хто там за рулём. Ведала, што Хрушчоў перад цаліннай кампаніяй абвясціў амністыю злачынцам, у выніку чаго на волю выйшлі тысячы і тысячы зэкаў, а не ўцяміла: учорашнія зняволеныя праніклі ва ўсе шчыліны агульнага жылля. Чаму яна падумала, што яе гэта ніяк не датычыцца, быццам яны рассяліліся недзе далёка, а не прыкінула рэальна: цаліна для іх асабліва прывабная, бо з’яўляецца сінонімам вольніцы. Так разважала Алеся. Пакутуючы за сваю неабачлівасць, называла сябе ў думках ужо й дурной авечкай, таму што анічога

благога не западозрыла нават тады, як Зэк прыпыніў машыну і сказаў: "Душна! Выйдзем перадыхнуць". У галаве Алесі цяпер пракручваліся кадры гэтай прыкрае дарожнае гісторыі. Вось ён вылазіць з кабіны і памагае ёй спусціцца з прыступкі – падае руку. Джэнтльмен дый годзе!.. Нават крывая ўсмешка нічога ёй, дурніцы, не сказала. А далей усё пайшло, нібы ў фільме жахаў. Ён хапае яе на рукі, прэ ў бок азерца і кідае з крутога берага. Яна коціцца аж да самай вады. Следам за ёю збягае і ён.

– Тут нікуды не ўцячэш! – папярэдзіў, калі яна падхапілася і спрабавала бегчы. – Давай па-харошаму...

Паваліў на зямлю, пачаў распранаць. Яна з усіх сілаў супраціўлялася. Пачаў біць па твары. На просьбу-мальбу адказаў кулаком. Удар па галаве спыніў адчайны дзявочы супраціў.

Зноў і зноў Алеся ўзгадвала яго звярыны выраз твару, калі дамагаўся яе і пасля, калі гнаўся за ёю на машыне. "Няўжо хацеў забіць?! – думала цяпер яна. – Падобна на тое, што хацеў. Чаму ж не ўтапіў? Мог жа ўтапіць! Тады не сумняваўся, што буду маўчаць? А йдучы да машыны, выходзіць, засумняваўся".

Бязлюдны стэп дадаваў Алесі думак пра безабароннасць чалавека ў вялікім свеце, а доўгая дарога то трывожыла, то супакойвала яе развярэджаную душу. У тунэлі маральных пакутаў, з якога не магла выбрацца дзявочая душа, раз-пораз бліскала амаль асляпляльнае святло. Такім святлом з'яўлялася жаданне і надзея здаць пася-

хова ўступныя іспыты ў інстытуце, куды яна так імкнулася.

Заставацца з ведамі, набытымі ў статыстычным тэхнікуме пасля сямігодкі ў Мінску, Алеся не магла. Карцела атрымаць вышэйшую адукацыю. Да гэтага абавязвала праца ў планавым аддзеле будаўнічае арганізацыі цаліннага пасёлка. Там даводзілася апрацоўваць процьму паказчыкаў, якія датычыліся і планавых заданняў арганізацыі, і зарплаты яе работнікаў.

Інстытут заставаўся для яе адзіным маяком у бурлівым жыццёвым моры. Аднак запаветная Алесіна мара не збылася. Першы іспыт – адразу і правал. Сканцэнтраваць увагу на пастаўленых у білеце пытаннях, падабраць патрэбныя словы ёй заміналі неадчэпныя думкі пра непрыстойны выгляд, памятую святочную вопратку, пра скамечаны лёс...

**3**

Пасля Кустаная Алеся перажывала змрочныя дні і амаль бяссонныя ночы.

У Мінску жыла маці, якая адмалку прыніжала, часам і кляла сваю адзіную дачку, называла чамусьці то дзікім, то воўчым мясам. Прычыну такой матчынай раздражнёнасці Алеся, безумоўна, разумела. Пасля таго як бацька сышоўся з іншаю жанчынаю, маладой пакіданцы прымаць дома ласых да спакусы мужыкоў замінала якраз дачка, якая, падрастаючы, усё больш кеміла, што адбываецца з яе маці. Алеся і на цаліну паехала не таму, што заклікалі туды ехаць тагачасныя ўлады, і не таму, што такі смелы крок лічыўся рамантыкай

і фактам вернасці і адданасці Радзіме – паехала, абы з’ехаць з дому, бо не магла больш трываць здзекі найраднейшага чалавека.

Яна і лістамі не надакучала сваёй найраднейшай. Так было з першага дня жыцця і працы на чужой зямлі. Нічым не хвалілася, ні на што не скардзілася. Цяпер Алесі, вядома, як ніколі дагэтуль, не ставала матчынай спагады і ласкі, ды не стала яна выпрошваць тое, чаго ніколі не мела жанчына, якая нарадзіла і неяк гадавала яе. Сорам камусьці сказаць, што нават перад ад’ездам у далёкі Казахстан не пачула ні ласкавага слова, ні наказу, ні хоць якой перасцярогі.

Алеся вырасла адзінотнаю. Між тым ёй неабходна было хоць адной душы адкрыцца, распавесці, што з ёю здарылася. Такой душой аказалася медсястра, латышка Лайма. “Будзь уважлівая да сябе. Калі што якое – не зацягвай, прыходзь, я памагу...”

Больш, думала Алеся, ніхто не ведае і не ўведае пра яе бяду, медсястра, прынамсі, абяцала маўчаць. А неўзабаве знаёмы аптэкар, выпадкова спаткаўшы пад вечар яе на вуліцы, сказаў, аглядваючыся па баках, ці нікога няма побач:

– Да мяне заходзіў адзін “герой”, хваліўся, што, маўляў, узламаў цаліну, прасіў даць яму атруты, каб супакоіць адну юную канторскую асобу... Прабачце, я вылічыў: гэта – пра вас.

Аптэкар, мужчына бальзакаўскага ўзросту, жанаты, глядзеў на патэнцыйную ахвяру як кот на сала; яго маленькія вочкі блішчэлі, абяцаў нікому не даць прыгажуню ў крыўду, калі толькі яна

“хоць трошкі дазволіць яе пакахаць”. Пры гэтым спрабаваў прытуліцца-прылашчыцца.

Словы і паводзіны лавеласа давялі Алесю да стрэсу.

– Прэч, прэч! – ускрыкнула яна і рэзка адапхнула кулакамі яго кастлявае тулава.

Ніяк не чакаў такога адпору сэрцаед: ён ледзь утрымаўся на нагах. Пакідаючы яго на дарожцы пад таполяю, Алеся заўважыла, як ён прамакаў насовачкай лоб і лысіну.

Пасля той нечаканай вечаровай сустрэчы з аптэкарам Алеся пачынала ўпадаць у новую дэпрэсію ад пачутага: Зэк шукае для яе атруту. Хоць яна і не ўяўляла, як ён збіраецца яе атруціць, але трывога і абурэнне не пакідалі ні на хвіліну. У той час як яна павінна адпомсціць злачынцу, ён не замольвае свой цяжкі грэх, а падумвае яе звесці са свету! Так сябе можа паводзіць хіба хворы псіхічна… З такімі думкамі пакутніца звязалася па тэлефоне з адной мінскай сяброўкаю, папрасіла падшукаць ёй сціплае жыллё і паведаміць пра яго кошт. На працы падала заяву. Звальняецца ў сувязі з тым, што дома ў яе цяжка захварэла маці і няма каму яе дагледаць…

На цаліну Алеся ехала, калі з радыёпрыёмнікаў і рэпрадуктараў часта гучалі дужа аптымістычныя песні-заклічкі. У адной з іх былі словы: “Здравствуй, дорога длинная! Здравствуй, земля целинная!»

“Будзь здарова, зямля цалінная!” – думала Алеся, атрымаўшы разлік у канторы будаўнічага трэста летнім сонечным днём. Прайшоў месяц пасля той праклятай дарогі ў Кустанай. Упершыню за

гэты час было сонечна ў яе на душы: яна не зацяжарала! На развітанне яе шчыра абняла медсясра Лайма.

У родным Мінску Алесі пачало шанцаваць. Лёгка знайшла працу і пакой у інтэрнаце, а на наступны год паступіла ў наргас. І творчасць сваю працягвала. У моладзевай газеце дэбютавала цыклам сваіх вершаў, на якія рэдакцыя атрымала многа водгукаў. Адзін юнак быў прыемна здзіўлены тым, што, як заўважыла рэдакцыя газеты, "...эканамістка па адукацыі ўзняла цаліну свайго шматабяцальнага таленту, пра што сведчыць ніўка ўзгадаваных ёю "цалінных" вершаў".

Закаханы ў фатаграфію дзяўчыны, хлопец захацеў убачыць "арыгінал"...

А неўзабаве Алеся атрымала нечаканае паведамленне ад Лаймы: загінуў Зэк. Не, не атруціўся, яго забілі. Хто? Невядома. Мабыць, сіла наскочыла на большую сілу.

*2012*



# ПРАДЧУВАННІ

## 1

Сінявокая, з тоўстаю пшанічнаю касою дзяўчына вырасла ў прыгожым старажытным беларускім гарадку, у інтэлігентнай сям'і, дзе прыкметнае месца займалі музыка і песні. Бацька, армейскі доктар, віртуозна граў на акардэоне, маці, музыказнаўца, і малодшая сястра добра спявалі, кожная акампануючы сабе на фартэпіяна. Рэгіна, так звалі дзяўчыну, не валодала дасканала ніякім музычным інструментам, ды захаплялася эстрадаю. Яе нязменным кумірам у школьныя і студэнцкія педінстытуцкія гады стаў Рашыд Бейбутаў. Калі па радыё гучала што-небудзь у яго выкананні, яна спяшалася да прыёмніка. Замірала, слухаючы пра незвычайныя дзявочыя вочы, якія ззялі ярчэй за зоркі залатыя і заварожвалі лірычнага героя песні... Іншы раз ёй здавалася – спявае не артыст, а салоўка заліваецца мілагучным спевам. Не менш за чароўны голас спевака ёй падабалася яго аблічча: цёмныя прамяністыя вочы, смуглыя тонкія бровы, чарнюткія, ажно з сінявачтым адлівам валасы. У сваім пашпарце Рэня насіла партрэцік любімага выканаўцы.

Як жа прыемна здзівілася яна, калі ў кінатэатры, куды прыйшла ў нядзелю пад вечар паглядзець новы кінафільм, поруч з ёю, на суседнім сядзенні аказаўся малады чалавек у светлым касцюме, вельмі падобны да Рашыда Бейбутава: такі ж смуглы і такі прывабны! Найперш і найбольш яе ўразілі яго карыя вочы, абрамленыя чорнымі і доўгімі, як у дзяўчыны, веямі. Прадбачыць маг-

чымае суседства з хлопцам, а тым болей – з прыгажуном, быццам з двайнікам знанага артыста, яна, вядома ж, не магла, чамусьці захвалявалася, ёй стала горача, ажно, здавалася, у жылах кроў закіпае. Раз-пораз дзяўчына прыкладвала руку да левай шчакі і вуха, што, здавалася, гарэлі агнём, бо акурат злева сядзеў незнаёмы. “Божа мой, чаго я так хвалююся?! – нарэшце падумала яна, як бы глянуўшы на сябе збоку. – Хто ён такі для мяне? Чужак. Магчыма, завітаў да кагосьці пагасцяваць ці камандзіраваўся ў Беларусь з якой-небудзь сярэднеазіяцкае краіны. Як прыехаў, так і паедзе…” Аднак нейкае незразумелае, невытлумачальнае прадчуванне ёй не дало супакою. “Чаму ён апынуўся менавіта ў Беларусі? – працягвала разважаць Рэгіна. – І што азначае гэты факт: ягонае месца аказалася ўпрытык з маім?” Яе цікавіла многае, калі не сказаць – усё, што датычылася асобы незнаёмага маладога чалавека, які з’явіўся ў кінатэатры паглядзець той самы фільм, што і яна. Хто ён такі, з якой краіны і з якой мэтай завітаў?.. Цяпер падумалася ёй, што, калі ён заявіўся на прагляд фільма, значыць разумее мову, можа, нават і размаўляе па-нашаму. Так, яна гэта ўжо дапускала, толькі не сумнявалася ў ягоным акцэнце… Словам, ёй хацелася, каб хлопец азваўся да яе, а яшчэ лепей – каб захацеў пазнаёміцца з ёю. У той жа час яна і пабойвалася, каб не заўважыў яе залішняе хваляванне і раптам знячэўку не пасяліў у ейнай душы пачуццё расчаравання…

**2**

Расчараванне тады абмінула Рэгіну. Тая выпадковая сустрэча, а пазней – новыя невыпадковыя спатканні толькі ўмацоўвалі пачуццё зачараванасці. Незнаёмец (звалі яго Паўлам Царэвічам) аказаўся карэнным беларусам і, галоўнае, добрым, прыязным чалавекам. Рос ён бядовым хлопцам, без бацькі, які лічыўся без весткі прапаўшым на вайне, ды, як высветлілася праз пятнаццаць гадоў, апынуўся ў Польшчы, дзе завёў новую сям’ю. Не ўтаіў Павел ад Рэгіны і матчын “подзвіг”: яна ў свой час завабіла да сябе мужчыну з сям’і, дзе гадаваліся дзевяць ягоных дзяцей.

Шчыры сумоўца, Павел дужа любіў пагаманіць з Рэгінай пра жыццё-быццё. Прасторнымі летнімі вечарамі прывык бавіць час разам з ёю, вольнаю ажно амаль на два канікулярныя месяцы пасля свайго першага года настаўнічання. Часта яны, закаханыя, апыналіся ў раскошных кутках прыроды, патаналі на жытнёвых сцяжынках, у лугавой і лясной нерушы, дзе пачуваліся Адамам і Евай, слухалі птушыныя спевы, знаходзілі суніцы, частавалі адно аднаго, падносячы на далоні да вуснаў духмяныя і салодкія ягады, складалі з васількоў, рамонкаў ды іншых пяшчотных красак букеты, сплякалі вяночкі, назіралі за матылькамі і стракозамі, іх палётамі, за пчалінымі пералётамі ад краскі да краскі.

Рэгіне падабалася нястомная ласкавасць Паўла, ён цалаваў яе вусны, вочы, бровы, нават радзімкі, пасеяныя невялічкім сузор’ем на яе тонкай белай шыі. І любіў распавядаць, як ён яшчэ школьнікам і пазней, будучы студэнтам будаўні-

чага інстытута, марыў спаткаць дзяўчыну якраз такую, як яна. “Уяўляеш, – казаў ён, – я хацеў, не ведаю чаму, каб у маёй любай на яе лебядзінай шыі было некалькі радзімак, каб у яе былі натуральныя светлыя валасы. Але галоўнае – каб былі сінія вочы, як нашыя васількі, як бясхмарнае чыстае неба!” Прамаўляючы такія сардэчныя словы, ён браў у рукі букет, у якім пераважалі васількі, паказваў на іх, гледзячы ў вочы дзяўчыны, пасля, усміхаючыся, глядзеў на сінечу неба. “Разумееш,– працягваў ён, – як добра, што ў цябе такія сінія вочы! Калі мы не будзем разам, мне твае вочы, іх пяшчоту, ласку і глыбіню будзе нагадваць бясхмарнае неба…” Ён зноўку цалаваў каханую. Рэгіна цешылася, парадавала і Паўла, калі распавяла пра тое, як хвалявалася і пра што мроіла пры першай з ім сустрэчы ў кінатэатры. Весела яму стала, калі даведаўся пра сваё падабенства з Рашыдам Бейбутавым. Ён засмуціўся, калі пачуў, што Рэгінін бацька быў пры Сталіне зняволены на сем гадоў за непрацяглы нямецкі палон.

Задушэўным размовам Рэгіны і Паўла, іх абдымкам і пацалункам не было зводу. Хутка яны зразумелі – жыць не могуць адно без аднаго. Справа рухалася да шлюбу, тым жа летам маладыя пабраліся. Пакуль былі жаніхом і нявестаю, Рэгініны сяброўкі і знаёмыя, тыя, што добра ведалі не толькі яе, а й Паўла, перасцерагалі яе, раілі не спяшацца замуж за першага стрэчнага: “У цябе ж нікога дагэтуль не было!”, “Трэба добра прыгледзецца да свайго абранага”, “Трэба пуд солі разам з’есці, каб раскусіць, што ён за птах”, і гэтак далей. Некаторыя, маючы на ўвазе ягонага

бацькі прыкры ўчынак, намякалі: “Яблычак ад яблыні недалёка падае…” “Што вы такое гаворыце! – амаль абуралася Рэгіна. – Павел харошы!”

**3**

Павел і Рэгіна Царэвічы сваё сумеснае жыццё пачалі ў хаце Рэгініных бацькоў, а калі праз год нарадзіўся іх першынец-сынок, пераехалі ў сваю кватэру, атрыманую Паўлам ад будаўнічае кампаніі. Праз пяць гадоў у іх з’явілася дачушка. Жылі душа ў душу. Малады муж аберагаў жонку, ва ўсім дапамагаў ёй. Калі яна працавала ў сельскай школе, пад’язджаў у сяло, каб разам вяртацца дадому. Не прапускаў літаратурныя вечары і спектаклі, якія ладзіла Рэгіна для вучняў, дапамагаў рабіць дэкарацыі. Калі яна ўладкавалася ў гарадскую школу і шчыравала там у дзве змены, ён пасля свайго працоўнага прарабскага дня паспяваў да яе прыходу прыбраць у кватэры, выкупаць дзяцей, прыгатаваць вячэру. Рабіў усё не змушана, а натхнёна. Улетку Царэвічы адпачывалі сям’ёю то ў Крыме, то на Каўказе, то ў Прыбалтыцы. Да самазабыцця Павел любіў дзяцей. Калі дачушцы споўнілася пяць гадоў, набыў ёй піяніна, вазіў яе ў дзіцячы сад, у школу сярэднюю і музычную, купляў цацкі. Сына змалку вучыў канструяваць, у раннім узросце навучыў вадзіць машыну. Увогуле яго любоў не знала межаў. Калі была захварэла аўдавелая цешча, ён усю ноч правёў ля яе пасцелі, акрываў яе, мяняў ваду ў грэлцы; каб адбіцца ад прыступаў кашлю, паіў цёплым адварам гаючых зёлак. А жонку з вечара адправіў спаць.

На два гады Павел з'язджаў у заробкі ў Лівію. Адтуль прысылаў лісты, поўныя пяшчоты. Рэгіна не заставалася ў даўгу, нават вершамі пачала з ім размаўляць. Вярнуўся ён з далёкага замежжа, калі на радзіме быў цяжкі час. Прывёз багата чэкаў, усе аддаў жонцы, каб набывала ўсё, што душа пажадае. Мноства падарункаў раздаваў родным і прыяцелям. Да сям'і сваёй стаў ён яшчэ больш уважлівы, як гэта было да паездкі ў Лівію, усіх адорваў падарункамі, ружамі. Аднойчы ўлетку адправіўшы Рэгіну і дзяцей у Дом адпачынку, зрабіў за кароткі час у кватэры рамонт, купіў новую ванну, газавую пліту, мэблю. Любіў падносіць прыемныя сюрпрызы. Нібыта ўсе яго бясконцыя знакі ўвагі, шанавання і любові былі падрыхтоўкаю да сюрпрызу непрыемнага.

Неяк раз Павел лячыўся ў шпіталі. Рэня з мамай праведалі яго, сядзелі з ім на лаўцы ў дворыку. Да іх неспадзявана падышла незнаёмая жанчына, якую Павел прадставіў: "Знаёмцеся – Ліза, стрыечная сястра жонкі майго начальніка Ніны Яўгенаўны. У яе муж, сардэчнік, тут лечыцца". Рэгіну тое знаёмства трохі засмуціла непрыемным абліччам прадстаўленай. У яе былі бясколерныя мутныя вочы, тонкія падцятыя губы, шырокі рот, штучная на галаве амаль чырвоная кучма валасоў. Спакваля непакоіла пытанне: "Навошта гэтае знаёмства?" Пачынала мучыць нейкае цьмянае прадчуванне. Пакуль муж лячыўся, пайшлі прапановы ад новай знаёмай: "Можа, вам патрэбная белая фарба?"; "А мо трэба мяса? Я загадваю сталоўкай". "Не, не трэба, дзякуй", – адбівалася Рэгіна ад незразумелае ласкі. А неўзабаве Павел запы-

таў: "Можна адвезці мне Лізу да знахаркі? Хварэе, бедная, а дактары не могуць памагчы". "Вядома, памажы чалавеку" – сказала клапатліваму Паўлу спагадлівая жонка.

З той пары муж дамоў пачаў вяртацца позна, а то і не вяртаўся, спасылаючыся на камандзіроўкі. Раптам яму спатрэбіліся чэкі, падораныя жонцы... "Ваш муж сустракаецца з Лізай, – сказала Ніна Яўгенаўна, жонка Паўлавага начальніка, Рэгіне. – Нашы ўгаворы не разбураць дзве сям'і адскокваюць ад яе як гарох ад сцяны". А Рэгіна і сама прадчула Паўлаву здраду.

Знайшла віноўніцу на працы. "Ты што сабе дазваляеш?!" – пачала яна канкрэтную гаворку з недарэчнай саперніцай. Лізуня, як яе ўжо называў новы муж, прымружыла вочы і выпаліла як з гарматы: "Ты прыйшла мяне выхоўваць, настаўніца? Ведай жа: мы кахаем адно аднаго, а гэта вышэй за правілы маралі!"

**4**

Павел Царэвіч, калі маладушна-таямніча сыходзіў ад Рэгіны да іншае жанчыны, не напружваў розум думкамі пра сям'ю, ён, быццам знаходзіўся пад уздзеяннем чыйгосьці гіпнозу, не разумеў, не прадбачыў, які ўдар можа адным махам нанесці па ўсіх сямейніках, якія пакуты прынясе ім, а ўрэшце рэшт і самому сабе. Дзесяцігадовая дачушка пыталася ў маці: "Дзе, мамачка, тата? Чаму не прыходзіць дадому?" Пасля, засмучаная, дадала: "Ён такі добранькі, хачу, каб быў дома! Дзе ён, мамачка?" Рэгіна не ведала, што сказаць. Суняць дзіцячае хваляванне, суцешыць дачку не было чым,

яна сябе добра ведала: на такія паводзіны каханага заплюшчыць вочы не зможа. “Кажуць, пачаў сабакам сена касіць”, – з горыччу адказала яна малой. Балюча ўспрыняў бацькаў учынак сын-юнак, ён рыхтаваўся да чарговага іспыту, паступаў у інстытут замежных моваў. Тады, як асабліва быў неабходны душэўны супакой, камфорт, ён не мог сканцэнтраваць увагу, па паўгадзіны тырчэў над кожнай старонкай канспектаў, ды слаба засвойваў прачытанае, бо з галавы не выходзіла страшная непрыемнасць. “Мама, няўжо ты не магла сустрэць больш вартага чалавека?” – з адчаем казаў юны максіматіст. “Сам ведаеш, сынок, ён усе нашыя сямнаццаць гадоў быў цудоўным бацькам, а я скажу – такім жа ідэальным мужам. Магчыма, хтосьці сурочыў нас, а мо якія чары на яго навяла-напусціла знахарка, да якой аднойчы звазіў тую распусніцу”, – гаварыла яна шчыра і ціха, чым супакойвала і сына, і дачку.

Дзеці паціху душой акрыялі, сын паступіў у інстытут, выдатна вучыўся. З яго прыклад брала сястрычка. Але сама Рэгіна была ўпала ў дэпрэсію, мужава раздваенне і падзенне, ягоную ганьбу перажывала вельмі хваравіта: “Хоць бы чымсьці людскім спакусіўся, а то прыбіўся да нейкае выдры, адно страхоцце!” Інтымная драма моцна выбіла яе з жыццёвае каляіны. Ад глыбокага стрэсу прыключылася анкалогія. Ды яна ўмела не панікаваць, суцешылася, што выявілася каварная хвароба на ранняй стадыі, і лекары справіліся з той бядою.

Развод, на якім настаяла Рэгіна, быў збянтэжыў Паўла Царэвіча, прымусіў пахвалявацца, ён нарэ-

шце ўцяміў, што дарожкі вяртання ў сям'ю няма. Давялося зміріцца з жончынай непрымірымасцю, бо напоўніцу ўсвядоміў сваю здраду, як след ацаніўшы жончыну вернасць. Лад жыцця – з пастаяннымі гулянкамі і п'янкамі ў розных кампаніях, пераважна ў родзічаў і сяброўак новай абранніцы, вясёлае марнатраўства, тое бязладдзе, якое яна яму навязала, спрыяла не надта засяроджвацца на тым, што ён натварыў у дачыненні да Рэгіны, да сям'і. Новую жонку прапісаў у матчынай двухпакаёўцы. Спачатку жыццё без пастаянных клопатаў ішло весела, яно выглядала гладкаю дарогай, але неўзабаве на той яго дарозе з'явіліся калдобіны, якія пастунова паглыбляліся. Пачаліся праблемы здароўя. Стаў падаць зрок, прытым настолькі хутка, што чалавек не паспяваў мяняць акуляры.

Яго пачалі пераследаваць трывожныя сны. Вось ён у незразумелых прыцемках – на знаёмым возеры. Трэба яму на бераг, куды ён і дыбае, але туды – далекавата. Між тым лёд пад ім пачынае прагінацца. Ён паскарае хаду, ужо і бяжыць, хоць ногі не вельмі слухаюцца яго, і з кожным ягоным крокам лёд, прагінаючыся, усё больш патрэсквае, на лёдзе ўжо нават з'яўляецца вада, яна ледзяная, ён так хваравіта адчувае яе холад, быццам наяве, а не ўва сне, толькі цяпер раптам заўважае: яго ногі босыя і мокрыя, іх усё вышэй займае вада, а зусім побач ужо лёду няма і вада ажно віруе; кагосьці ён кліча, крычыць, – і расплюшчвае вочы. Свядомасць яму кажа: гэта быў сон. "Дзякаваць Богу, што сон, – думае чалавек, прадчуваючы: нешта паганае ён прадвяшчае..." Штосьці падобнае пе-

ражываў Павел і ў іншых снах, калі ён бачыў сябе то на будаўнічых рыштаваннях, то на даху нейкага высачэзнага збудавання. Вось ён падымаецца ўгору, але не па лесвіцы, а па даволі крутым чарапічным даху, доўга-доўга так узбіраецца вышэй і вышэй. Там, высока, яго чакае нейкае спатканне. Аднак наверсе, дзе канчаецца дах збудавання, высвятляецца: ніхто яго не чакае. Трэба вяртацца, але дах пачынае нечакана пад яго нагамі правальвацца. Пад чарапіцаю раптам не аказваецца ні крокваў, ні латаў – суцэльная пустэча. Яшчэ якімсьці цудам ён трымаецца, стаіць на нейкай тонкай перакладзіне, ды не бачыць выйсця: да зямлі далёка, ногі моцна стаміліся, пачынаюць дрыжэць, і сам ён ужо калоціцца. Не ад стомы, не ад холаду – ад страху… Тут Павел вяртаецца ў сваю суровую рэальнасць: трэба кропелькі для вачэй, а не памятае, дзе яны; трэба прыняць інсулін, а няма поруч Лізуні, каб укалола. Якраз у пару нарастаючых недамаганняў Паўла яна ўсё часцей кідала яму з парога кароткае паведамленне: “Міленькі, я паехала…” Ехала яна штодня да новага абранніка, які чакаў яе ў іншым горадзе. Ужо не так часта і начавала дома.

**5**

Ранейшыя сны Паўла цяжкімі начамі не паўтараліся. Прысніўся новы, як бы здзеклівы сваёй сутнасцю сон: ён, п’яны, барахтаецца ў лужыне, не могучы з яе выбрацца, хвалюецца за прамоклую ў бруднай вадзе апратку і за сваю намочаную ў нагавіцах “гаспадарку”, а да яго пад’язджае аўтамабіль, на якім вялікімі чорнымі літарамі вы-

ведзена: МАШЫНА ЧАСУ. Машына адкратая, у ёй сядзіць ведзьма, яна глядзіць на Паўла-небараку і гучна-гучна рагоча, дэманстратыўна насміхаецца з яго. Павел углядаецца ў нахабнае аблічча ведзьмы і пазнае ў ім тую, што здрадліва пакідае яго ў бядзе. Так, гэта яна – з ненатуральна вогненнай чупрынай, падцятымі фанабэрыстымі губамі і пустымі мутнымі вачыма. Павел намагаецца падняцца, але ніяк не можа, тады штомоцы крычыць: “Згінь, сатана!”

“Божа, да каго ж я прыбіўся! Як я так мог?!..”– думаў ён, прачнуўшыся.

Неяк, вяртаючыся з паліклінікі, Павел сустрэў Рэгіну. Яна правяла яго да самага дому. “Ведай, Рэнечка, я кахаў, кахаю і буду кахаць толькі цябе!» – сказаў ён былой жонцы на развітанне. Пазней, калі здароўе яшчэ пагоршылася, пачаў скардзіцца Рэгіне і дачцэ на Лізуню: «Яна мяне ўсяляк абзывае, б’е, суткамі не бывае дома. Рэнька, я, дурань, так уляпаўся!»

Паміраў Павел Царэвіч цяжка. Яму здрадзілі ногі. Сам не мог дайсці да прыбіральні. Да апошніх ягоных дзён апекавалася ім дачка. Перад смерцю ён папрасіў паклікаць Рэгіну. Калі былая жонка прыйшла, Павел узяў яе рукі, прытуліў да грудзей і сказаў: «Даруй мне за ўсё, любімая!» А ў гэты час на кухні Лізуня з сяброўкамі пахмялялася. Нарэшце яна займела тое, пра што марыла: прыватызавала кватэру, прапісала ўнука і прытулілася да багача. Праўда, той багач неўзабаве папёр яе з катэджа. А праз два гады яна сышла ў лепшы свет.

Да Рэгіны сваталіся ажно пяцёра мужчын, ды нікому яна не адказала ўзаемнасцю. Прывыкла да сваёй свабоды. Слухае класічную музыку, мулявінскіх «Песняроў»; Рашыд Бейбутаў даўно перастаў быць кумірам. Паўлу паставіла помнік, да якога прыходзіць то з дачкою, выдатнаю праграмісткаю, то з унукам-старшакласнікам. Штодня па скайпу размаўляе з сынам, што працуе архітэктарам у Лондане, і з яго сям'ёю. Не раз вандравала па Вялікабрытаніі ды іншым замежжы. Любіць прымаць гасцей, асабліва сваіх выпускнікоў, найбольш – самых першых, якія запамяталі яе маладою.

*2018*

# ПАШТОЎКА

## 1

Аднапаверхавы двухкватэрны дамок, дзе жыла адзіная Алесева ўжо замужняя сястра, туліўся пры больш масіўных будынках у старым квартале, амаль побач з інстытутам, куды Алесь паступіў вучыцца, і непадалёк інтэрната, у якім пасяліўся. І штодня ў вольны ад працы сястры і швагра час ён наведваў іх. Толькі калі трапіў у магічны палон прозы Эрнэста Хемінгуэя (а юны кніжнік наважыўся за верасень прачытаць усіх нобелеўскіх лаўрэатаў), ён, як сп’янелы, пасля чытання запоем не мог адразу далічыцца, тры ці чатыры дні запар абмінаў сціплую будыніну, у якой жыла сястра. Затое калі ізноў завітаў да яе, тая ўзрадавалася, як ніколі дагэтуль.

– О як добра, браціку, што ўспомніў нас! – сакатала яна; да размовы адразу падключыўся швагер: – Мы ўжо намерыліся цябе шукаць у тваім вобшчам жыціі (гэтак па-свойму ён называў інтэрнат).

Сястра збіралася з мужам да ягоных бацькоў у сяло на два тыдні капаць бульбу і, каб менш хвалявацца за кватэру, папрасіла брата, каб у ёй пажыў, дала запасны ключ.

Па-свойму ўнікальная кватэра з пячным абагрэвам, з агульнымі гэтак званым санвузлом, тытанам і ваннаю, страшна далёкая ад камфорту, спадабалася Алесю. Не таму, што пасля вясковай хаты, дзе ён вырас, яна была ў чымсьці больш зручнаю, а таму, што ў гэтай кватэры з высокаю столлю лёгка, як і ў бацькоўскай хаце, дыхалася,

і яна абяцала цішыню, як абяцаў яе і ўвесь гэты з тоўстымі цаглянымі сценамі дамок наводшыбе глухаватага двара дый спакойны рытм жыцця ў старым квартале горада. А даражыў юнак цішынёй па адной прычыне: самазабыўна захапляўся кнігамі. Яны даўно сталіся яго рэлігіяй, з імі ў руках ён шукаў цішыню ўсюды, дзе б ні апынуўся – і ў чыталках, і ў інстытуцкіх аўдыторыях, і ў гарадскім парку. Вось і цяпер ён не сумняваўся, што, заняўшы на пару тыдняў кватэру сястры, разам з асобным жыллём завалодае неацэнным скарбам цішыні, уяўляў, як вольнымі вечарамі, умасціўшыся на ложку, будзе пры ўтульным святле таршэра дапазна ўпівацца ўсё новымі раманамі.

**2**

Пасля інстытута, сталоўкі і гастранома Алесь першы раз вярнуўся не ў свой шумны інтэрнат, не ў кампанію аднакурснікаў – ён шыбаваў, як да прыстані параход, да аднапаверхавага дамка, да кватэры, ключ ад якой ляжаў у кішэні пінжака. Стаяў цёплы верасень, і хлопец фарсіў у новым касцюме. У руках ён нёс тоўсты, набіты кнігамі партфель і сумачку з хлебам, ліевернай каўбасою, камсой і кефірам – чым не апетытная вячэра дый сняданак?

Алесь ведаў: па суседстве з яго сястрою жыве разведзёнка Галя, пухлая чорнавалосая жанчына гадоў сарака пяці. Цяпер, калі ён адмыкаў знаёмыя дзверы, у суседнюю кватэру прашмыгнулі дзве бландзінкі, здалося, абедзве перафарбаваныя, адна даволі цыбатая, з амаль мужчынскім тварам, другая – прыгожая. «Значыць, цётка Галя

дома», – падумаў хлопец, ужо зачыняючы за сабою дзверы.

З парога, як і ў бацькоўскім доме, пачыналася кухня. Тут ён уладкаваў прадукты, пераапрануўся ў спартовы касцюм. Паліць грубу, паліваць вазоны яшчэ не было патрэбы, і ён з партфелем прайшоў у пакой, усеўся ў крэсле пры акне, пачаў чытаць. За любімым заняткам правёў гадзіны дзве. Раптам з двара данёсся дзявочы смех. Алесь зірнуў у акно і ўбачыў, як тыя самыя бландзінкі, якіх, адмыкаючы дзверы, заўважыў у агульным калідорчыку, цяпер вялі у дамок двух афіцэраў; прыгожая ішла ўзяўшыся з кавалерам за руку, цыбатая – абняўшы свайго рукой за талію...

Праз некалькі хвілінаў да слыху юнака пачалі далятаць гукі музыкі, пасля – звонкія дзявочыя ды басавітыя мужчынскія галасы; затым раз-пораз рыпелі дзверы суседняй кватэры, шчоўкаў, нібы страляў, іх замок, ляпалі дзверы агульнай прыбіральні. Суцэльная какафонія музыкі, стукаў, рыпу, галасоў парушала душэўны камфорт студэнта, не давала яму засяродзіцца.

Увечары, пры святле ліхтароў, вясёлая кампанія высыпала на вуліцу. Сп’янелыя, яны развязна гушкаліся у двары на арэлях, гучна гаманілі, смяяліся. Пасля кудысьці сышлі, зноў з’явіліся, гулялі да позняе ночы.

Праз дзень карціна паўтарылася: бландзінкі вялі да Галі новых кавалераў. «Прытон» – падумаў Алесь. Назаўтра ён даведаўся, што у Галі жыве кватарантка, бялявая Люся, з якой сябруе другая бландзінка. Цыбатая – такой мянушкаю ахрысціў яе Алесь. Яму адкрылася схема, па якой дзейнічалі

жывыя лялькі. Модна апранутыя, аздобленыя памадаю, пудраю, яны хадзілі на чыгуначны вакзал у «разведку» і там бралі «языкоў», вядома, з ліку савецкіх афіцэраў, што вярталіся з-за мяжы ў Саюз на адпачынак. Далей спрацоўвала Галіна кухня. Схема, здавалася б, простая, нават прымітыўная, але яна міжволі ўразіла студэнта-кніжніка не менш чым якая-небудзь аповесць. Ён, праўда, не задумваўся над рухавіком і вынікамі дзеяння маленькай дамскай групоўкі; пра жаночы разлік, пра ўзаемныя інтарэсы бакоў...

Алесь яшчэ не сустракаў слова секс. Толькі сніліся яму па начах дзяўчаты. Яшчэ й калі ў школе вучыўся, сніліся. Для яго найвялікшай таямніцаю было тое, што адбываецца ў шлюбную ноч паміж жаніхом і нявестаю. У сястры запытацца, вядома ж, не мог, у каго чужога – тым больш: сорамна! Ведаў хлопец і пра пазашлюбныя сувязі. Калі вучыўся ў дзявятым класе, пачуў, што дзесяцікласніцу Галю Кананчук зубрападобны дырэктар школы зрабіў сваёй наложніцай, менавіта гэтак пра іх і казалі. Галя выглядала як пышная і здобная булачка. Праўда, яму здавалася губатаю, апроч таго, крыху картавіла. Але будзь яна й сапраўднай прыгажуняю, Алесь яе не мог бы пакахаць ужо таму, што стала дырэктаравай, – ён жа хацеў кахання сапраўднага, чыстага, а без пачуцця святога палюбіцца, як казалі на сяле, не мог.

Алесю і цяпер, калі стаў студэнтам, нават не прыходзіла ў галаву, што ён можа запрасіць у госці нават самую прыгожую аднакурсніцу Марылю, дзяўчыну з тоўстай і доўгай касою. Хоць бы пацікавіўся, што скажа на запрашэнне, ды і на тое

не ставала смеласці. Між тым прага дзявочага цела і пазнання таямніцы дасягала ў ім апагею.

Тое, што ён убачыў тут, у старым квартале горада, і што ў яго свядомасці атаясамлівалася з прытонам распусты, было для яго стыхіяй дзікаю і няўцямнаю.

## 3

Аднойчы сякі-такі афіцэрык перапаў і гаспадыні суседняй кватэры. Алесь пра тое не ведаў, але здагадаўся ўвечары, калі яна, цётка Галя, ззяючы, як вышараваная каструля, папрасіла яго, каб пусціў да сябе нанач чатырох чалавек, гасцей, як яна сказала. Алесь не хацеў адмовіць суседцы ў адзінай просьбе амаль за два тыдні суседства. Тым болей што і пакой і кухня сестрыной кватэры былі ўдвая большыя, чым у яе, прытым на кухні стаяла як бы лішняя – для прыезджых – канапа.

Начнымі гасцямі аказаліся Люся з капітанам і Цыбатая з маёрам. Паслалі сабе на падлозе, побач з Алесевым ложкам. Алесь перайшоў спаць на канапу, а ім аддаў увесь пакой. Перад сном госці доўга выпівалі і закусвалі. Запрасілі і яго. Ён выпіў адзін кілішак і пажадаў начной кампаніі добрай ночы. А ўначы да Алеся прыходзіла Цыбатая, і ці то з сімпатыі да яго, ці то з удзячнасці за начлег, а мо і з галадухі (мусіць, маёр перабраў спіртнога дый адразу «адключыўся») яна залезла пад халасцяцкую коўдрачку, прыціснулася пышнымі грудзьмі да хлопца, спрактыкавана-азартна рассунула каленам яго санлівыя ногі і паклала між імі сваё ўзбуджальнае сцягно, не паспеў ён і ўцяміць: гэта сон ці ява? Спакуса аказалася неча-

канaя, ап'яняльна моцная. Да радасці было так блізка, ды Алесь неверагодным намаганнем волі пабароў моцнае жаданне разрадкі, – боязь магчымай заразы, а яшчэ памяць уражлівага і гідлівага юнака аб тым, што ў Цыбатай на твары прыкметныя сляды ад фурункулаў (ён гэта ўвечары заўважыў пры святле), стрымалі яго: хоць і было цёмна, цалавацца з ёю не мог, а між тым меркаваў, што без пацалункаў – вусны ў вусны – немагчыма дасягнуць асалоды. Распусніца адчула яго антыпатыю, але не пакрыўдзілася. «Спі, лапушок», – неяк нават ласкава сказала яна, пакідаючы канапу.

Праз дзень вярнулася з мужам Алесева сястра.

**4**

У вольны час па дарозе з інстытута Алесь працягваў наведваць сястру, і амаль кожны раз ён аказваўся сведкам вясёлых гулянак у суседняй кватэры. Тут яго здзівіла раз цікавая навіна: адзін афіцэр, затрымаўшыся у Люсі не на адну ноч, як безліч папярэдніх залётных носьбітаў афіцэрскіх зорак, неўзабаве ўпісаў яе імя ў свой пашпарт, хутка і павёз нявесту з сабою ў Данецк.

Міні-прытон распаўся ўраз, бо і да гаспадыні прыбіўся адзін дзівак, праўда, не вайсковы, а цывільны. Тут ён, як кажуць матросы, кінуў якар. Нарэшце, у дамку, куды Алесь усё часцей заглядваў, запанавала цішыня.

Былую Галіну кватарантку Люсю і яе сяброўку Алесь не ўспамінаў – не было нагоды. Але аднойчы, калі пасля лекцый завітаў да сястры, на маснічыне ў калідорчыку ўбачыў паштоўку. Ён

падняў, думаючы, што яна адрасаваная сястры ці швагру. Аказалася, Люся скардзілася Галі на свайго мужа: «Ён, Галічка, не такі, пра якіх марылі мы». Алесь цэлы дзень быў пад моцным уражаннем: аказваецца, і блудніцы здольныя марыць пра ідэальных мужоў. Нічога падобнага юны кніжнік не вычытаў пакуль ні ў адным рамане.

# ПАКУТЫ ШЧЫРАЙ ДУШЫ

## 1

Тою ж раніцай, калі паклалі жонку ў радзільню, Антон даведаўся па тэлефоне нумар яе палаты, прыехаў да гэтага вядомага ў горадзе гмаху, лёгка вылічыў патрэбнае акно, злаўчыўся, быццам кот, ускочыць на жалезную бочку, відаць, будаўнікамі тут пакінутую і кімсьці перавернутую ўверх дном якраз там, дзе яму трэба, і, стоячы на дыбачках, убачыць праз незафарбаваную верхнюю частку шыбы высокага акна сваю любую, такую родную пакутніцу!..

Ён у кагосьці з класікаў Усходу чытаў, што закаханага цяжка бывае адрозніць ад вар'ята. Але каб хто сказаў, што нейкая доля вар'яцтва выявіцца і ў яго паводзінах, нізашто не паверыў бы. Затое які ён закаханы, і казаць не трэба – ведаюць усе: і сваякі, і сябры, і суседзі. Тое ні ад кога ён ніколі не ўтойваў. І не мог утойваць. У шчырага чалавека, якім Антон Прышчэпа вырас, святое пачуццё жыве і ў слове, і ў позірку, і ў кожным учынку, грунтуючыся на самой філасофіі ўспрымання жыцця. Здавалася б, ну што за такі вялікі неспакой: трапіла жонка ў радзільню... Ды справа ў тым, што яна яму не жонка, а жоначка, з чым і сама даўно звыклася, бо не ўяўляе сябе без яго ласкі і пяшчоты. Зноў-такі здавалася б: трэба мець мужчынскую вытрымку, захоўваць супакой, каб не замінаць тваёй «палавінцы» мужна прайсці Богам наканаванае выпрабаванне болем, пакутамі, перш чым нарадзіць новае жыццё. Так то яно так, але не кажыце гэта Антону, бо яго Яніначка – сама

яшчэ дзіцё: аж цэлы месяц бракуе да сямнаццаці! То ж не жартачкі – апынулася перад такім выпрабаваннем першы раз! І не падумайце сказаць яму, што малады здаровы арганізм лёгка перажыве ўсе мукі: дапамогуць дактары, якія заўсёды поруч. Яніна для Антона ніякі не арганізм, а жывая вясна, падораная яму не толькі лёсам – а і самой матухнай прыродай: у яе вялікія і ясныя, чыста вясновыя вочы, звонкі, як вясновы ручай, голас, пяшчотныя, мяккія, як лянок, і залацістыя, нібы сонца, пасмы валасоў, вусны спакусныя, як даспелыя суніцы; нават само імя гучыць як мелодыя, гукі якой растаюць водарам у самым сэрцы. Яна для яго – любая, чароўная, адзіная і непаўторная! І трэба ж было той непаўторнай, калі ўбачыла праз аконнае шкло яго кучарава-чубатую галаву, скласці крыжыкам указальныя пальцы рук, без слоў гаворачы, як ёй – не вытрымаць! – цяжка.

Ні жывы ні мёртвы вярнуўся муж дадому. Дома не знаходзіў сабе месца. Яшчэ позна ўвечары і ноччу тэлефанаваў у радзільню – выніку пакуль не было. «Калі яна не выжыве, – думаў Антон, – я памру таксама, хай нас пахаваюць разам». Падобна, у ім жыў шэкспіраўскі Рамэа. Доўга не мог заснуць,  успамінаў дзень першага спаткання з ёю на пераднавагодняй вечарыне, калі ён, аператар тэлестудыі, завітаў дзеля святочнай перадачы ў школу, дзе вучыўся з першага класа па адзінаццаты. Няйнакш гэта сам лёс яго прывёў сюды. Тут і знайшоў Янінку, васьмікласніцу-чараўніцу, стройную, хударлявую, золатавалосую, з вялікімі бліскучымі вачыма. Дагэтуль Антон ніколі не ўяўляў, што так могуць блішчэць ясныя вочы, ён

дапускаў падобны бліск хіба што чорных ці карых вачэй. Ды вось трапіў пад гіпноз зеленаватых. У іх патанула імгненна яго хлапечая воля-незалежнасць, ён стаў жывым ценем каханай. На ростані, калі паслалі ў сталіцу на курсы, толькі і думаў пра яе. Лісты, паштоўкі, фатаграфіі ад яго сыпаліся ёй на рукі, на душу, як сыплюцца з неба цёплыя кроплі летняга дажджу на засмяглую раллю. І яна не прымушала яго доўга чакаць узаемнай увагі, ласкі, пяшчоты.

На яе летніх канікулах былі яны разам, гасцявалі адно ў аднаго – то ў кватэры Антонавых бацькоў, то ў доме Янінай бабулі, чыю адзінокую старасць яна даглядала, часта выязджалі ці выходзілі на прыроду, дыхалі свежым паветрам, збіралі ў лесе грыбы ды ягады і ўсюды абдымаліся, цалаваліся. А ў жніўні пабраліся – паспелі да бабулінага адыходу. У верасні пакінула старэнькая белы свет, калі пачынала заміраць прырода. А ўвесну, калі ўсё наўкола абуджалася ў прыродзе, Яніна гатовая была падараваць сям'і і свету новае жыццё, ды вось яе пакуты доўжыліся. Антон пасылаў ёй у думках свае лепшыя пачуцці, перачытваў яе дзявочыя лісты, адрасаваныя яму, цалаваў яе фатаграфію, тую, што найбольш поўна адлюстроўвала яе красу: спакусныя, як бы прыпухлыя вусны, вялікія вясновыя вочы, пышныя пасмы сонечных валасоў. Як ні доўга не мог Антон заснуць, ён заснуць быў павінен хоць бы дзеля таго, каб не перадаваліся любай празмерныя ягоныя хваляванні і каб убачыць дзівосна-светлы і такі яскравы сон! ...Вясна; як вокам кінуць – маладая пышная пад небам блакітным рунь, па гэ-

тым роўным полі збажыны бяжыць яго каханая, спрытна нахіляецца і з лона зямлі падхоплівае рукамі прыгожае зайчанятка і крочыць па густой руні, тулячы яго аберуч да сэрца...

І якая ж вялікая радасць завалодала Антонам раніцай, калі пачуў па тэлефоне жаданую навіну! На рынку ён быў першы пакупнік ружаў і ўсялякіх марцыпанаў. З палымяна-праніклівым пасланнем у кішэні ёй, маладзенькай жонцы-маме, і сыночку, з поўнай сумкаю прысмакаў і з ружамі ён нёсся, бы на крылах ляцеў, да вядомага гмаху... Потым чытаў і перачытваў накіданыя на шматку паперы яе простыя і такія цёпла-пранікнёныя словы: «Віншую цябе з сынам! У нас усё добра. Беражы сябе. Да сустрэчы. Цалую». Яшчэ і яшчэ Антон углядаўся ў такі родны почырк. Ён так любіў касы дождждык яе пісьма, яму дадавалі аптымізму жыццярадасныя, поўныя любові яе словы, грэлі душу і акрылялі.

Вяртаючыся дадому, ён двойчы даставаў паперынку з тымі шчырымі словамі, перачытваў і туліў да вуснаў.

**2**

О, Прышчэпа! Антон! Бацечка! Віншуем! – гэтак наперабой, неспадзявана сустрэўшы, віталі свайго супрацоўніка сябры ў ціхай і ўтульнай кавярні, куды ён зайшоў павячэраць, усе трое падняліся з-за століка. – Ідзі ж, бацечка, да нас.

Хоць Антон Прышчэпа быў у адпачынку, на працы ўсе ўжо ведалі, што ён стаў бацькам, а першыя ўведалі якраз гэтыя паплечнікі – рэдактар Млынец, рэжысёр Чэхін і асістэнт рэжысёра

Вяроўка. Пасля цёплых поціскаў сяброўскіх рук Антон сам прыставіў чацвёртае крэсла да іхняга стала, сеў, паклаўшы рукі на стол. Тут яму падалі ў рукі шклянку «сухача» – Чэхін усім налiваў з адкаркаванае пляшкі.

– За сына! За жонку! За цябе! – дружна выгуквалі тосты.

Выпілі. Антон паклікаў афіцыянтку, заказаў з лёгкай закуссю чатыры пляшкі віна – па адной на кожнага. Калегі былі нашмат старэйшыя за яго. Ён дужа любіў іх, бо гэта быў сапраўдны ансамбль прафесіяналаў, і яны яго любілі; такое ў хлопца было ўражанне, нібы ведае іх змалку, хоць папрацаваў з імі толькі год. Дзякуючы майстэрству кожнага працавалася ім лёгка, часам, па сутнасці, з нічога рабілі цікавыя перадачы – так умелі падаваць падзеі і факты.

Выпівалі за нованароджанага, за яго вагу і рост, за яго маці, за бацьку, за сям'ю, за каханне... Шчаслівы галава сям'і заказаў яшчэ віна, ізноў па пляшцы «на брата». Антон крыху захмялеў: ён амаль не закусваў, усё гаманіў, адказваў на пытанні сяброў.

З кавярні выйшлі на галоўную вуліцу горада, павольна пайшлі па ёй, не прамінаючы ніводнага віннага аўтамата. Гэтую навінку ў абласным цэнтры толькі ўвялі, і было цікава глядзець, апускаючы ў шчыліну па 20 капеек, як у шклянкі наліваецца віно – там чырвонае, там ружовае, там белае...

Калі пазачыняліся ўсе крамы і кавярні, да Антона і яго сяброў прыйшла «ідэя» – паехаць на чыгуначны вакзал: там яшчэ працаваў буфет...

## 3

...Нейкае сіва-касматае страшыдла, з рыхлым, як воблака, тварам, біла па галаве, душыла за горла. «Я тут хачу уладарыць! – крычала яно, аж ляцела рэха: арыць, арыць, арыць. – А ты павінен знікнуць!» Чалавек меў моцныя рукі, імі ён заўсёды лёгенька падымаў сваю любую, мог пасадзіць яе на сваю далоню і гэтак несці. А тут яго дужыя рукі не маглі абараніцца, ён толькі спрабаваў іх падняць, а яны, як свінцом налітыя, ападалі...

Нешта ўсё дзерла і дзерла ў горле, сціскала яго якраз тады, як дзве неверагодна моцныя сілы завалодалі целам і душою: адна, натуральная і жыццядайная, поўная здаровага сэнсу, – бацюхна сон, другая, штучная, недарэчная і бессэнсоўная, – высокай ступені ап’яненне; як бы абсалютна паралізаванымі аказаліся ўся фізічная моц і свядомасць чалавека. Звычайна ў жыцці ён хутка знаходзіў выйсце з няпростых і цяжкіх абставінаў. А тут аказаўся бяссільны: сон быў глыбокі, стома – вялікая, ап’яненне – поўнае, прачнуцца ўсё яшчэ не мог, хоць у горле пякло вастрэй і вастрэй, бы мноства джалаў у яго ўпівалася. Чалавек няўцямна варочаўся на ложку, прыціскаўся тварам да падушкі, шукаў ува сне, ужо мала падобным на сон, край коўдры – хацеў акрыцца з галавою, але коўдра была пад ім і таму толькі яе ражок дацягваў да твару, – нішто не ратавала.

У такім стане апынуўся, вядома, Антон Прышчэпа, дваццацітрохгадовы малады чалавек, дома, у сваёй кватэры, што дасталася ў спадчыну ад Янінай бабулі, і ў гэтым крытычным стане яму пагражала штосьці страшнае. Ён круціўся, як

на гарачай патэльні ўюн, то на бок, то на жывот, хаваючы твар у гарачую падушку, – заяўляла пра сябе самаахоўная функцыя арганізма. І ўражлівы зрокавы нерв маляваў сіва-касматае страшыдла, – сонны мозг не быў здатны на большае, толькі так выспявала яго каманда: трэба ратавацца, трэба прачынацца! Нарэшце штосьці гадкае, агіднае пачало перакрываць дыханне, чалавеку стала млосна, і вочы расплюшчыліся.

Маланкай мільганула ў галаве пытанне: «Дзе я?», следам – другое: «Што са мной?» Праз незачыненыя дзверы з кухні ў пакой ледзьве прабівалася святло электрычнай лямпачкі, усе хатнія прадметы патаналі, бы ў густым тумане, у сінявата-шэрым дыме; смярдзела паленым. «Плітка!» – гарачая хваля памяці абудзілася, і пачуццё трывогі і сораму ўдарыла ў галаву. Ён падняўся і, хістаючыся, шыбануў на кухню, выцягнуў з разеткі шнур, зняў з электраплíткі патэльню, на якой ляжалі бялява-шэрыя вугельчыкі. Плітка ўсё яшчэ была чырвоная, распаленая.

Ён паадчыняў дзверы і вокны, а сам выбег у двор.

Тое, што здарылася, хутка ацверазіла яго. «Божа мой, што я нарабіў... Я ж мог задыхнуцца ў атрутным дыме!.. Як там Яня з маленькім?» – падумалася пра сябе, пра жонку і сына...

Прайшоўся па кішэнях рукамі і не знайшоў у іх ні капейкі, а браў жа амаль усе адпускныя з сабою...

На небе свяціла поўня. Ён зірнуў на цыферблат наручнага гадзінніка, стрэлкі паказвалі 3 гадзіны і 33 хвіліны ночы.

Як ні моташна было, зрабіў лёгкую фізічную зарадку, так ён супрацьстаяў начному халадку, – на зямлі яшчэ сям-там ляжаў снег.

Калі з кватэры выйшаў дым і яна напоўнілася свежым чыстым паветрам, Антон, пазачыняўшы дзверы і вокны, вярнуўся да свайго ложка і толькі цяпер скінуў з сябе касцюм, кашулю, з ног пасцягваў шкарпэткі і забраўся пад коўдру.

**4**

Кружылася галава. Гулі рукі і ногі. Страшна хацелася спаць. Але ён, нібы кінастужку, пракручваў у памяці кадры-моманты ўчорашняга вечара і гэтай ночы. Адны з іх памяць зусім прапускала, да іншых зноў і зноў вярталася. Кавярня і вінныя аўтаматы помніліся даволі яскрава. Там, здаецца, усё было прыстойна. Цяпер яго найбольш хвалявала, як ён з кампаніяй паводзіў сябе на вакзале. Ці не вытварыў чаго? І як вярнуўся дадому? Яго здзівіла, што і пасля такога моцнага ап’янення ён валодае амаль усёй «хронікай» не толькі вячэрніх, а і начных прыгодаў – хоць бяры ды пішы сцэнар фільма, а не тое што здымай кадры па волі рэжысёра. Тут якраз узгадаўся рэжысёр Чэхін; прынцыповы і пільны, ён, відаць, з усёй сяброўскай кампаніі аказаўся найменш п’яны, бо даказваў буфетчыцы, што яна іх аблічыла, а тая даводзіла сваё, не прымала яго прэтэнзій, маўляў, яна чэсная і мае заслугі перад гандлем. Чым скончылася спрэчка, Антон не ведаў. Што ж там, на вакзале, пілі? Спачатку віно. Але скончылі півам. Пэўна, ужо ні на што іншае не ставала грошай. Як выходзілі з буфета, Антон не памятаў. Чэхін

будзіў яго ў машыне. Цікава, як ён разлічваўся з таксістам: няўжо ў яго яшчэ заставаліся грошы?.. Малайчына ж гэты Чэхін: правёў аж да дзвярэй. Дзверы Антон адмыкаў сам. Ён цяпер узгадваў да драбніцаў, што ж было дома. У яго ўначы абудзілася вострае пачуццё голаду, бо нідзе толкам не закусваў, тут і ўключыў электраплітку, паставіў патэльню, укінуў лыжку масла і выгарнуў з каструлі недаедзеную раніцай вараную бульбу. Плітка награвалася павольна. А ён адчуў ва ўсім целе стому, пайшоў з кухні ў пакой – да ложка, сеў, міжволі прылёг, імгненна і заснуў...

Набліжаўся світанак новага дня. У Антона ў галаве не было сумбуру. Перш чым заснуць і выспацца, ён абдумваў, як пабудуе дзень. У цэнтры дзённых клопатаў былі жонка і немаўля. Ён прыкідваў, у каго зможа пазычыць крыху грошай. Доўг верне хутка, бо заробіць ганарары, для чаго давядзецца паварушыцца. З тыдзень, пакуль выпішуць Яню з сынам, ён можа і павыходзіць на працу. Сёе-тое з тэлеперадач прапануе сталічнай студыі.

Непараўнальна больш Антона Прышчэпу хвалявала тое, як ён выбудуе сямейнае жыццё. Давядзецца навучыцца надточваць ганарарамі асноўныя свае заробкі хоць бы на той час, пакуль Яня будзе ў дэкрэтным адпачынку. Ну, піць ён не будзе – гэта факт! Адно што яшчэ добра адзначыць сваё сямейнае свята. Багата насклікае гасцей, запросіць і сваю ўчорашнюю кампанію. Як там яны ўсе?..

Антон думаў яшчэ пра тое, што яго ўратавала. Выпадак? Тое, што ў кватэры высокая столь і што

бульба смажылася і згарала далёка ад ложка, дзе ён заснуў? А можа, ноччу не спалася Яні, можа, яна думала пра яго?.. Дзякуй Богу, усё абышлося... Яму захацелася абняць сваіх сямейнікаў. І ён абнімаў іх сваёй шчыраю душою.



# ПАЦАЛУНАК

У шпіталі трызніў смяротна паранены воін. «Ларыса! Ларыса! Ла-ры-са» – паўтараў ён імя любай збялелымі сасмаглымі вуснамі.

Параненага першая пачула санітарка, яна і паклікала медсястру, у якой было якраз такое імя, якое пачулася з вуснаў салдата:

– Ларыса, хутчэй сюды!

Медсястра жвава падышла да няшчаснага байца.

– Што, мілы? Я з табой! – дрыготкі дзявочы голас прагучаў так ласкава, так сардэчна, што ў параненага не засталося сумнення: поруч з ім – каханая, якую ён, калі выпраўляўся на фронт, не пацалаваў: у вялікага пачуцця не знайшлося тады рашучасці.

– Пацалуй мяне, – папрасіў юнак, не ў стане падняць вейкі вачэй.

Ні ён, ні медсястра ні з кім яшчэ не цалаваліся.

Ларыса нахілілася да схуднелага бязвусага твару юнака і па-дзіцячы прытулілася вуснамі да вуснаў.

Баец паміраў лёгка, што засведчыў выраз твару як бы з невымоўна-затоенаю ўсмешкаю. Збавенне ад пякельнага болю прыйшло з радасцю першага і апошняга пацалунка.



# СВЕТЛАЯ ЭЛЕГІЯ

## 1. Чырвовая Дама

Напрадвесні 1971 года ў Мінску, у рэдакцыі адной з рэспубліканскіх газет з'явіўся новы літкансультант Максім Жаваронак, дваццацівасьмігадовы чалавек, высокі, стройны, з сінімі вачыма, пшанічнаю шавялюраю і з чорнымі, быццам падфарбаванымі, бакенбардамі.

Чымсьці ён, гранічна сціплы і далікатны, прываблівау прыгажуняў. І не толькі тады, як асталяваўся ў сталіцы, а й нашмат раней, калі яшчэ вучыўся ў сельскай школе побач з векавечнаю дубровай. Многія дзяўчаты пры спатканні з ім чамусьці густа чырванелі. Ці то занадта эмацыйна ўспрымалі красу, ці, быць можа, адчувалі эратычную сілу. У школе ён, васьмікласнік, падабаўся дзесяцікласніцы Валі Рэзьнічак. Яе сяброўства з яго старэйшаю сястрой Янінай давала магчымасць ёй часта прыходзіць да Жаваронкаў. Аднаго разу, калі яна завітала да іх, дома быў толькі Максім. Валя ў яго папрасіла дазволу дачакацца Яніну, а калі прымасцілася ў крэсле каля стала, то звярнула ўвагу на альбом, які ляжаў на стале. Максім узрадаваўся, што яна зацікавілася ягоным альбомам, бо не ведаў, пра што з ёю гаварыць. Хлопец падаў ёй у рукі па сутнасці самаробны, аздоблены малюнкамі і фатаграфіямі зборнік упадабаных ім вершаў, цытатаў знакамітых творцаў і любімых песняў. Зрэшты, некаторыя вершы і песні былі занатаваныя яго сябрамі-аднакласнікамі – на памяць. Валя ўважліва чытала альбом, назвала яго змястоўным і прапанавала занесці

туды сваёю рукою словы песні, якая часта гучала ў выкананні Клаўдзіі Шульжэнкі. Дзяўчына пастаралася вельмі проста заінтрыгаваць юнака:

– Прачытаеш, калі я пайду дамоў.

Увечары Максім прачытаў песню і перачытаў радкі першага куплета: “Но глаза твои большие// Не дают покоя мне” ды апошняга: “С этим что-то делать надо,// Надо что-то предпринять”. Намёк яму быў зразумелы. Наступная сустрэча з Валяю, нечаканая і мімалётная, адбылася перад званком на ўрок у школьным калідоры. Тады, загадкава ўсміхаючыся, яна сказала:

– Ты сёння так падобны на Кадачнікава!..

Максім ведаў: Павел Кадачнікаў, той самы, што спявае пра “милые сердцу глаза”, – яе любімы артыст… Юнак саромеўся старэйшае за сябе дзяўчыны, таму ніяк не адказаў на яе намёкі.

А новае спатканне з Валянцінай аказалася незвычайнае. Калі яна прыйшла ўвечары да Яніны, Максім ужо сабраўся ісці на поле да сцірты па салому, – пасылала маці. І тут сястра ўгаварыла яго ўзяць з сабою сяброўку, маўляў, смялей і весялей будзе…

Надзіва цёплы ўдаўся той месячны вераснёўскі вечар, але настрой у хлопца быў зусім не рамантычны. Не таму што ён ішоў па салому, а таму што ведаў (па ўсёй школе імгненна пракацілася пагалоска): Валю заманіў школьны дырэктар, жанаты, пажылы, пузаты, які ў вачах юнака здаваўся пачвараю. І тое, што яна легла пад тую тушу, ён успрыняў не толькі як факт амаральны, а яшчэ і як здраду яму, Максіму, каму яна, хоць і намёкамі, не так даўно прызнавалася ў каханні… Ён не

разумеў, як яна пасля падзення ідзе з ім, бы нічога і не здарылася. Крочыў моўчкі па даволі высокай пожні. Абуты быў у рабочыя боты, у якіх хадзіў у лес па грыбы, а што ў яе на нагах, ён не глядзеў. Валя старалася не адставаць ад Максіма, ды ўсё ж крыху адставала.

– Чаму ты, Максімачка, маўчыш? – ласкава пыталася яна.

– Такі ўжо ўдаўся маўклівы.

– Мо які настаўнік пакрыўдзіў? – дапытвалася, ідучы подбегам.

– Не, буркнуў ён, хоць і хацеў сказаць, што пакрыўдзіў дырэктар, каб яна зразумела, што ён ведае пра яе ганьбу…

Калі падышлі да сцірты, Максім паклаў на зямлю вяроўку і збіраўся з ходу скубці салому, але Валя, як бы не разумеючы яго раздражнёнасці, папрасіла:

– Я стамілася, давай трошкі пасядзім.

Яны прыселі каля сцірты. Даволі ярка на небе свяціла поўня.

– Як ты думаеш, Макс, – нечакана спытала Валя, – ці хутка паляцяць касманаўты на іншыя планеты, або хоць бы на Месяц?

– А што там рабіць? – сказаў так, каб толькі не адпавядаць яе настрою.

– Што ты, Макс! – здзівілася яна. – Гэта не толькі цікава, а й карысна. Касманаўтыка – навука перспектыўная.

Яна ўсміхалася, і ззянне вачэй пры месячным святле, і завіточкі русых валасоў вакол твару, і ямачкі на шчоках, і высокія грудзі, што, здавалася, распіралі сукенку, – усё як бы гаварыла: “Бяры

мяне, бяры! Я ўся твая! Адно вусны сказаць такое не змаглі. А ведала б яна, як у хлапечых жылах кіпіць кроў ад жадання зведаць тое, чым так хваляцца сэрцаеды, і тое, як часта па начах яму сняцца дзяўчаты, то, пэўна, сама пачала б яго цалаваць, лашчыць. І тады ён бы забыўся на цяжкую крыўду і быў бы ўцягнены ў вір, з якога нялёгка выбрацца… Магчыма, не так ужо й марыў бы спаткаць каханую, бо прывык бы забаўляцца ёю, маладзічкаю. А мо з ёю секс гэтак спадабаўся б, што і пакахаў бы яе, хто ведае.

Ад сцірты яны ішлі разам толькі да сяла. Разышліся і больш ніколі не спаткаліся. Так сталася, што назаўтра хата Рэзьнічкаў згарэла, і сям'я неадкладна выехала кудысь далёка да блізкіх родзічаў. Зрэшты, у школе прайшла чутка, быццам выехалі пагарэльцы ў Расію, і Валя там выйшла замуж за лётчыка.

У дзясятым класе прыязныя ўзаеміны ў Максіма завязаліся з аднакласніцай Нінай Жыгалковіч. Яна яго вучыла граць на гітары, а ён яе – у шахматы. Ніна, чыстагалосая і эмацыйная, любіла спяваць народныя песні і рамансы. Смелая на сцэне, сціплая і стрыманая ў адносінах да людзей, яна падабалася Максіму, ды ён не ведаў, як назваць пачуццё да такой прыемнае дзяўчыны. Узрадаваўся, калі ў Адама Міцкевіча знайшоў радкі, якія выказвалі аналагічную няпэўнасць стасункаў паміж хлопцам і дзяўчынаю: “Czy to jest przyjaźń? czy to jest kochanie?” Максім нярэдка бавіў час у Ніны, то паказваючы ёй эфектныя камбінацыі ў шахматных кампазіцыях і партыях, то слухаючы

яе спевы і пад гітару, і акапэльна, то любуючыся, як яна прыбірае ў хаце, як чыста мые падлогу, завіхаецца ля пліты… Іншы раз ён сам не заўважаў, як затрымліваўся ў яе ўтульнай хаце дапазна. І ніколі з яе боку не было аніякіх намёкаў на тое, што час позні і развітвацца пара. Можа, Ніна чакала ягоных абдымкаў ды пацалункаў. Мо нават і аддалася б, каб да сэрца прыгарнуў, прылашчыў. Але Ніна была круглая сірата, і ён баяўся яе пакрыўдзіць: жаніцца да вучобы ў інстытуце яму было рана…

А ў інстытуце ў адной групе з ім вучылася Ярына Бохан. З шасці аднагрупнікаў-арлоў ёй у сэрца запаў адзін – Максім Жаваронак. Яна дзівавалася, чаму ён не звяртае ўвагі на яе, такую ж сінявокую, як і ён сам. Гэтую недарэчнасць яна надумала рашуча выправіць і паклікала яго ў парк на спатканне. Хтосьці іншы неадкладна скарыстаў бы такі зручны момант: заманіў бы дзяўчыну ў пасцель ці ў лес. Хтосьці, але не Максім. Блізкія адносіны з дзяўчынаю ён па-ранейшаму дапусціў бы толькі пры ўзаемным каханні. Аднаго Ярынінага кахання тут аказалася мала – ён, чырванеючы больш за дзяўчыну ад хвалявання, адмовіў ёй ва ўзаемнасці. Нібыта ведаў, што неўзабаве ў гэтым жа інстытуце спаткае Любу, закахаецца і ажэніцца.

Але каб дайсці да шлюбу, ён мусіў паклапаціцца пра заробкі. Пакуль не перавёўся на завочнае аддзяленне і не ўладкаваўся на працу ў рэдакцыю раёнкі, разгружаў вагоны… А пасля вяселля маладажоны жылі на прыватнай кватэры. Нездарма

людзі кажуць: “Закаханым рай і ў будане”. Люба хутка зацяжарала. Нарадзілася дачка.

Неўзабаве яму далі аднапакаёўку, можна сказаць, дапатопную, без паравога ацяплення, са старою грубаю, якая за зіму з’ядала не адну тону вугалю, затое – амаль у цэнтры горада. Калектыў рэдакцыі падараваў на ўлазіны круглы стол і чатыры крэслы. Шафу Максім купіў сам, халадзільнік выйграў па латарэйным білецэ, і жыццё яму часта пачынала здавацца ледзь не раем.

А працавалася Максіму цяжка. Сельгасаддзел, які ён узначальваў, з’яўляўся галоўным. Даводзілася ў кожны нумар здаваць па пяцьсот і болей радкоў. А што да ягоных заробкаў, то іх бракавала яго маленькай сям’і нават на харчы і на пялюшкі для дзіцяці. Ды якраз у гэты час у яго адкрылася другое дыханне: вечарамі, а часам і начамі ён пачаў ствараць вершы, пісаць нарысы, рэцэнзіі, артыкулы; яго паэтычныя і крытычныя творы, а тым больш журналісцкія рэчы ўсё часцей з’яўляліся і ў абласным і ў рэспубліканскім друку. Яму тэлефанавалі з рэдакцыяў газетаў і часопісаў, сёе-тое замаўлялі – чакалі новых твораў. Адусюль ішлі ганарары, імя набывала вядомасць, поспехі падбадзёрвалі і натхнялі. Сенсацыйнай з’явілася ягоная кніга паэзіі: відныя паэты і крытыкі выступілі з рэцэнзіямі на яе. І ўсе высока ацанілі неардынарнае выданне, яго змест. Многія з іх прапанавалі аўтару свае рэкамендацыі для ўступлення ў саюз пісьменнікаў. Праз пару месяцаў ён быў прыняты ў пісьменніцкую творчую суполку.

Максіму Жаваронку пачало ўсё болей шанцаваць: у тым жа годзе, калі дачка пайшла ў школу,

ён у новым доме атрымаў двухпакаёўку і быў запрошаны працаваць на студыю тэлебачання. Не прайшло і года, як ім зацікавілася сталіца… У Мінску адразу даў абвестку пра абмен свайго жытла ў абласным цэнтры на аднапакаёўку ў сталіцы, часова пасяліўся ў кватэры жончынае цёткі, уладкаваўся на працу і з першага дня закасаўшы рукавы ўзяўся за справу. Хоць галоўны рэдактар і паставіў умову: плаціць кожны месяц будзе не больш як за сто дваццаць лістоў-адказаў аўтарам, новы спецыяліст ажывіў рэдакцыйную пошту настолькі, што акрэсленую лічбу перавышаў удвая і нават больш. Пры гэтым не дапускаў абыякавага стаўлення нават да самых слабых літаратараў-пачаткоўцаў, а цярпліва тлумачыў ім, чаму пакуль немагчыма надрукаваць прапанаваныя творы, заўсёды знаходзіў і называў найбольш удалыя радкі. Ён увёў у практыку рэгулярную публікацыю аглядаў паэтычнае пошты. З лепшых вершаў рыхтаваў да друку літстаронкі і літаратурныя куткі. У выніку ўвачавідкі рос ягоны аўтарытэт.

Да Максіма ўсё часцей пачала падыходзіць у кабінет сімпатычная, з густам апранутая супрацоўніца з пытаннямі, якія датычыліся, як правіла, вершаскладання, формы вершаў. То яе цікавіла, што такое рандо, то ёй карцела даведацца пра тэрцыны. Літкансультант не пытаўся, навошта ёй гэта патрэбна, а спакойна стараўся задаволіць ейную дапытлівасць. Чырвовая Дама, як ён яе ўпотай ахрысціў, кожны раз яму дзякавала з усмешкаю на вуснах і ў вачах. А аднаго разу, пры падобнай сустрэчы, запрасіла яго ў госці на абед.

Максім пайшоў з загадкаваю Чырвоваю Дамаю ў яе кватэру. Дом, у якім яна жыла, знаходзіўся пабач з рэдакцыяй, на адзіным тады ў горадзе праспекце. Дзверы ім адчыніў гаспадар, які выглядаў гадоў на дваццаць пяць старэйшым за гаспадыню. Поціск яго потнай рукі Максіму падаўся вялым, як, зрэшты, і голас. Пакуль мужчыны знаёміліся, мылі рукі, праходзілі ў залу, увішная гаспадыня хутка застаўляла стол багатымі стравамі, напоямі, садавінай. У зале, чыстай і неперагружанай мэбляю, было ўтульна.

За полуднем гаспадары цікавіліся працаю госця ў рэдакцыі, увогуле яго жыццём, сям'ёю, распавядалі коратка пра сябе. Аказалася, што ў сямейнае пары няма дзяцей. Як толькі гаспадыня адлучылася на кухню, каб прыгатаваць каву, яе муж збянтэжана звярнуўся да сумоўцы:

– Мы хочам мець дзіцё. Разумееце? І, умольна гледзячы госцю ў вочы, дадаў: – Нам патрэбны мужчына… Разумееце? Яна ўпадабала… вас.

Максім імгненна заліўся чырванню. Тое, што ён пачуў, магло з'явіцца сном ці эпізодам з рамана, эратычнага фільма або спектакля. Аднак гэта была рэальнасць: мужчына прасіў памагчы яго жонцы зацяжарыць. Сямейная пара не ўяўляла, што зусім нечаканая прапанова аніяк не стасавалася з жыццёвымі перакананнямі Максіма, з яго мараллю і эстэтыкай.

Максім Жаваронак чалавек быў занадта далікатны, каб з ім абмяркоўваць такую гарачую праблему, толкам нават не пазнаёміўшыся. І ў той жа час ён, чулае маючы сэрца, спачуваў людзям, асабліва жанчынам. І калі б яму паступова, пры

новых сустрэчах, муж газетчыцы ўводзіў у вушы трывожную думку, што для ягонае жонкі страшная пакута і трагедыя – не мець дзіцяці ды яшчэ каб прыдумаў, быццам з прычыны яго бяздзетнасці справа даходзіць да разводу (не выключана, што так яно і насамрэч было), то Максім пранікся б жалем да невязучае сям'і і, магчыма, зрабіў бы рашучы мужчынскі крок… А можа быць, муж і не павінен быў паказвацца госцю на вочы, з'ехаў бы кудысьці з дому… А ў тую хвіліну Максім успомніў пра жонку і дачку, падумаў з пяшчотаю: "Як яны там?" І пакуль гаспадыня прынесла каву, за яе гасцінным сталом наступіла развязка: госць папрасіў прабачэння ў чалавека, абцяжаранага складанаю задачай, і развітаўся.

Надышла вясна. Хутка сышоў снег. На дрэвах з'явіліся пупышкі, а на рынку – пяшчотныя пралескі. Са зменай у прыродзе супалі змены ў Максімавым жыцці: адзін яго ўплывовы зямляк памог яму пасяліцца ў інтэрнаце, у цэнтры сталіцы, а сваю пасаду літкансультанта Максім змяніў на пасаду выдавецкага рэдактара.

## 2. Ларыса

Звычайна па суботах ён пакідаў сталіцу, сваё новае месца працы, каб пабыць з сям'ёй у родным горадзе. Вельмі даспадобы яму было кожны раз пасля начнога цягніка спаткаць на парозе кватэры і абняць такую ласкавую і цёпленькую – з пасцелі – жонку і палюбавацца соннаю дачушкаю, яе чорнымі вейкамі, раскрыленымі бровамі і светлымі, амаль аўсянымі пасмамі валасоў. Не мог ён доўга не бачыць іх – непрывычна было,

сумна. Калі ў яго бракавала грошай, браў у знаёмага студэнта пасведчанне, купляў ільготны квіток. У свае амаль трыццаць Максім выглядаў як юнак і не выклікаў падазрэння не толькі ў правадніцы, а і ў суровых кантралёраў, калі іншы раз яны з'яўляліся.

Тая субота сталася выняткам з правіла: Максім дамоў не паехаў, бо, згодна з графікам, ён павінен быў у панядзелак здаць у карэктарскую рукапіс аповесці аднаго маладога аўтара. Твор аказаўся недасканалы, бедны мовай і багаты памылкамі, стылявымі агрэхамі, неахайнасцю пісьма, што вымагала шмат карпатлівай рэдактарскай працы. Словам, яму не хапіла яшчэ двух дзён. Таму папку з аповесцю ўзяў з сабою ў інтэрнат. Цэлы суботні дзень даводзіў да кандыцыі сыры твор. А пад вечар, калі расслабіўся на ложку і ўжо ледзь не задрамаў, раптам пачуў, як па калідоры зацокалі абцасікі і як іх цоканне, набліжаючыся, узмацнялася, пакуль не замёрла ля дзвярэй ягонага пакоя. У той жа момант загадкавая асоба рашуча пастукала чучкаю ў дзверы.

– Калі ласка, – выразна сказаў Максім, падхопліваючыся з ложка і прыгладжваючы шавялюру.

У пакой увайшла юная мілавідная бландзінка, такая маларослая, што яе слаба выручалі высокія абцасы модных ботаў.

Дзяўчына апынулася ў спакойным святле сонца, якое, ідучы да лініі гарызонту, зазірнула ў акно і кінула развітальныя промні аж на дзверы пакоя. Яна павіталася. Шчырая ўсмешка ўзмацніла бліск яе вялікіх блакітных вачэй і на імгненне паказала роўныя белыя зубы. Яе кароткая прыталеная ру-

жовая сукенка падкрэслівала зграбную постаць, агаляла вышэй каленяў стройныя ножкі.

Максім пасля жаніцьбы, заняты сямейнымі і творчымі клопатамі, працяглы час увогуле не бачыў дзяўчат, а падобнае красуні не даводзілася бачыць ні ў кінафільмах, ні ў сваіх даволі частых каляровых снах. Ён узрадаваўся нечаканым спатканнем, зацікавіўся незнаёмкай, падышоў да яе і ў адказ на вітанне сказаў:

– Будзем знаёміцца?

Яе маленькая і пяшчотная рука, падобная на дзіцячую, патанула ў яго шырокай мужчынскай далоні. Ён назваў імя сваё.

– Ларыса, – сказала яна з усмешкаю. Максім нейкі момант стаяў як загіпнатызаваны перад вечароваю госцяю: ён убачыў у ёй чыстае суладдзе. Да светлага твару і ясных вачэй пасавалі кучаравыя залацістыя валасы. Штосьці анёльскае было ў дзявочым абліччы і голасе.

– Праходзьце і сядайце, – нарэшце сказаў Максім. Ён не запытаў, што прывяло яе да яго.

Дзяўчына кароткімі, але энергічнымі крокамі прайшла да крэсла ля стала, размешчанага ў кутку пакоя, і села. Максім прысеў на краі ложка, насупраць юнае госці.

– О, мая стыхія! – усклікнула яна весела, паказваючы на пішучую машынку, што стаяла на стале.

– Вы – машыністка?

– Яна самая, – гэтак жа весела адказала яна.

Максім, працягваючы знаёмства, даведаўся, што Ларыса год таму скончыла ў Валожыне школу і працуе машыністкаю ў абкаме камсамола.

Завочна вучыцца на першым курсе ўніверсітэта. Любіць літаратуру і музыку.

Ён нахіліўся да дзяўчыны і пацалаваў яе ў вусны, пасля падхапіў на рукі, моцна прытуліў да грудзей, пакружыў яе, як дзіцё, зноў пацалаваў і пасадзіў на тое ж месца.

– Ну, што ж ты?..– з ноткаю непаразумення сказала яна; на яе шчочках успыхнуў пяшчотны румянец.

Максім не ведаў, што Ларысу пасялілі ў адным пакоі з дзвюма цэхоўскімі работніцамі, якія мянялі палюбоўнікаў часцей, чым мяняюць пальчаткі, і не саромеліся часам у яе прысутнасці позним вечарам здавальняць сябе з чарговымі кавалерамі. Не ведаў ён тады і пра тое, што падчас розных моладзевых фэстаў, урачыстасцяў гэты інтэрнат засялялі камсамольцамі і камсамолкамі, і тады вечарамі і начамі рытмічна скрозь парыпвалі ложкі, чуліся гучныя гамонкі, воклічы, салодкія стогны…

Пасля знаёмства з Ларысай Максім ведаў, што ў яе нікога, апроч яго, няма, і яму прыемна было бавіць з ёю вольны час, хоць такога часу выпадала малавата. Ён разумеў, што ёй, першакурсніцы, цікава з ім пагаманіць пра кнігі ды іх аўтараў, пра фільмы і артыстаў, пра музыку і кампазітараў. Да таго ж ён памагаў ёй рыхтавацца да сесіі. Прытуліўшы сваёй бескарыслівай увагаю дзяўчыну да сябе, ён стараўся як даўжэй ахоўваць яе ад выпадковых інтымных сувязяў, ёй жа карцела хутчэй паспытаць забаронены плод. Аднаго разу, у дзень іх загараднага адпачынку, на ўскрайку лесу, калі з кроны старога дуба даносіўся салаўі-

ны пошчак, дзяўчына абняла Максіма, стаўшы на дыбачкі, і сказала як выдыхнула: “Я табе ўсё-усё аддам, толькі пачакай…”

Такі момант з’явіўся, калі Максім святкаваў дзень нараджэння. Запрошаная ім Ларыса падаравала яму раскошны букет ружаў. Лёгка чыталіся ў яе валошкавых вачах радасць і пачуццё адданасці. Выпітае за святочным сталом віно абаіх падштурхоўвала на грэх. Мімаволі Максім апынуўся з дзяўчынаю на ложку, лашчыў-мілаваў яе, міжвольна распранаў, але яна сваёй пяшчотаю, маленькім ростам, залатымі пасмамі валасоў і нават голасам і смехам раптам нагадала ягоную дачку, і ён, як бы сваёй дачцэ, сказаў ціха: “Прабач, міленькая! Не спяшайся, дзетачка… Я табе жадаю шчасця”.

Яна хутка падхапілася, нервовымі рухамі рук на маленькія грудзі нацягвала станік, зашпільвала лёгкую, як паветра, кофтачку… Максіма пакінула моўчкі.

На другі дзень Максім у інтэрнацкім калідоры сустрэў Ларысу не адну – яна вяла ў свой пакой капітана-вайскоўца. Твар у яе быў худы і бледны.

З той пары ён яе больш ніколі не бачыў.

Праз два тыдні яму ўдалося абмяняць сваю правінцыйную кватэру на мінскую аднапакаёўку і перавезці ў сталіцу сваю сям’ю.

**Заміж эпілогу**

Максім распавёў мне пра маладыя гады жыцця, пра ўсе гэтыя гісторыі, будучы ў сталым узросце, калі мы з ім пазнаёміліся і пасябравалі.

– Як бы хацеў я хоць на якую часінку вярнуцца ў маладосць! – сказаў ён, правёўшы далоняю хударлявае рукі па негустых валасах, – ды спаткацца з тымі дзяўчатамі і маладзіцамі, міма чыіх лёсаў прайшоў, – з Ларысай, Чырвовай Дамай, Ярынай, Нінай, Валянцінай… ды й цяпер з вялікай радасцю спаткаў бы. Ведаць бы, што ўсе яны жывыя і што жыццё не зашмат біла кожную з іх! Зараз усе яны мне мілыя.

Я ківаў галавою ў знак згоды. А ён прадоўжыў сваю гамонку з нечаканым паваротам:

– Зрэшты, можа, не так ужо й радасна было б убачыць іх пастарэлымі ды нямоглымі. Важна іншае, тое, што яны – не знічкі ў небе маёй памяці, а светлая мая элегія.

*2012, 2013*

# ПРАЗ ТРЫЦЦАЦЬ ПЯЦЬ ГАДОЎ

Жанчына стаяла на тралейбусным прыпынку. Цёплы жнівеньскі вецер кудлаціў модна пафарбаваныя валасы. Сінхронна з далікатным дотыкам чыёйсьці рукі да яе пляча прагучала мужчынскае вітанне. Яна азірнулася: ёй усміхаўся мужчына яе ўзросту, у прыгожым светлым касцюме і ў капелюшы. Ні яго шэрыя вочы, ні нават прыязная шырокая ўсмешка нічога ёй не падказалі.

– А была такая пышная каса, ці не так, Галечка?!

Так, сапраўды, каса ў яе, Галі-школьніцы, была доўгая, да пояса, і тоўстая, на зайздрасць дзяўчатам і на заглядзенне хлопцам… Але адкуль пра тое ведае чужы мужчына? І адкуль ён ведае імя?

Чалавек у капелюшы зразумеў яе недаўменны позірк.

– Не пазнаеш? Цікава, а на чыім плячы ты прачнулася, калі вярталася з горада на Няве?

– Ігар! – засмяялася яна весела, спрытна зняла на хвіліну з ягонай галавы капялюш і, калі ладную ўбачыла лысіну, гарэзліва заўважыла: – А якая шавялюра раскашавала на гэтай светлай галаве!

– Галя, Галінка! Божа мой! Нарэшце сустрэліся!..

Колішнім аднакласнікам было пра што пагаманіць за ўтульным столікам у начным рэстаране. Аказваецца, Ігар жыве і працуе ў Швейцарыі, узначальвае буйную фірму. Мае машыну і загарадную вілу. Жанаты, сын і дачка ўжо дарослыя. Як высветлілася цяпер, праз трыццаць пяць га-

доў, Галя была Ігаравым каханнем, нясмелым і таму нявыяўленым. Ён прызнаўся, што ад рэўнасці быў гатовы страляцца на дуэлі з Міцем, бо той праводзіў Галіну з выпускнога балю. Тут ён даведаўся ад мілай зямлячкі, што той самы віноўнік яго рэўнасці Міця спіўся, як і Галін былы муж, які ў рэшце рэшт трапіў дзякуючы клопату сястры ў Дом міласэрнасці.

Ігар у школе падабаўся Галіне, але ён таго не заўважыў. І зусім не зразумеў яе пасля свайго дарожнага жарту ў экскурсійным аўтобусе. Іхні клас вяртаўся ноччу дадому, і хлопец, калі ўбачыў, што яго сімпатыя на сядзенні заснула, ціха папрасіў яе сяброўку памяняцца з ім месцамі…

Дзяўчына, якая выхоўвалася па строгіх правілах сям'і, раптам прачнулася на хлапечым плячы! Ігараў учынак успрыняла як абразу. Зусім не таму, што некаторыя хіхікалі. Загневалася, але так чакала, што Ігар ласкава папросіць прабачэння! А ён, дзівак, не здагадаўся.

*2012*

# РАЎНІВЕЦ

Ала С. доўга вагалася, узважвала довады і за, і супраць, перш чым прыняць канчатковае рашэнне: пытанне перад ёю паўстала сур'ёзнае – да яе на дачу прыязджаў з Мінска разам з родзічамі Мікола, сватаўся. "Я прыйшоў зрабіць тое, – сказаў ён, – што не зрабіў трыццаць гадоў таму".

Тады ён толькі пазнаёміўся з Алай, а яе выкраў у бацькоў іншы кавалер, пасадзіў у машыну і павёз распісвацца. З ім пражыла яна дзевяць гадоў, нарадзіла дзве дачкі, гадаваць якіх давялося самой: муж паціху співаўся, і шлюб распаўся. Цяпер Алу хвалявала тое, што яна зусім не ведае Міколу. Казалі, добры бульдазерыст. "Што ж ён за чалавек? – не давала спакою пытанне. – Памерла заўчасна жонка. Ад чаго? Ці няма ў тым яго віны?.."

Намучылася з першым, таму баялася паўтарыць памылку. Аднак добра яна разумела і "перспектыву" застацца адной. Няхай сабе заляцаліся многія да яе мужчыны, ды ўсё жанатыя. Чужому шчасцю шкодзіць не магла – не той характар, але перамен ёй хацелася, тым болей што не надта складваліся адносіны з старэйшаю дачкой. А тут яшчэ былы муж надакучаў: п'яны, брудны, з сінякамі на твары, сюд-туд прасіў пазычыць грошай, што раздражняла. А між тым Мікола ўсё больш настойліва дамагаўся яе згоды звязаць з ім свой лёс, і Ала, нарэшце, рызыкнула зрабіць крок насустрач новаму мужу. Не, не крок, толькі паўкроку. Сабрала рэчы дый пераехала да яго, пакуль як бы ў разведку пайшла, без афармлення шлюбу, хоць

дзевяностагадовая свякруха капала ёй на мазгі сваімі павучаннямі: “Майму сыну трэба законная жонка. Я хачу, каб і ты была ў нас не бяспраўная. Так што хутчэй распішыся, каб было як у людзей!” А ў той жа час нібыта голас зверху засцерагаў: “Пачакай, не спяшайся! Слухай сваё сэрца…”

Ала вырасла ў пасёлку, у прыстойнай сям’і, змалку прывыкла працаваць і прыйшла ў новую сям’ю рупнаю гаспадыняй. Смачна гатавала, старанна мыла-прыбірала, зрабілася нянькай і мужу, і яго сыну, і свякрусе, што жыла ў суседнім пад’ездзе. І на працу а шостай раніцы паспявала дабрацца з аднаго канца горада ў другі.

Ды не скончыўся яшчэ яе з Колем мядовы месяц, як пачало гайдаць і трэсці іх любоўны човен. Варта было з ім паявіцца на людзях, як праяўлялася яго дзікая, вар’яцкая рэўнасць. Калі нехта з мужчын вітаўся з Алай, ён з перакошаным тварам дапытваўся: “Адкуль ты яго знаеш?!.. Ты з ім жыла!

Аднойчы ішлі яны разам па тратуары ў яе родным пасёлку. На ёй, стройнай і элегантнай, была сукенка колеру даспелай вішні, на нагах – модныя туфлі на шпільках; галаву ўпрыгожвалі акуратна ўкладзеныя валасы.

– Краса незямная! – пачулася з-за кустоў парэчак суседняй сядзібы, дзе паліваў гарод знаёмы чалавек.

– Гэта мая жонка! Якое маеш права так гаварыць?! – крычаў раўнівец, вырываючы штыкеціну і кідаючыся біцца.

Прыгажуня ледзьве яго стрымала, ды яшчэ доўга хваля сораму разлівалася ў яе па ўсім твары.

Раз неяк, стомленая пасля рабочага дня, зайшла яна да сваёй дачкі і там засталася начаваць. Раніцай заявіўся Мікола. А на лаўцы ля яе пад'езда сядзеў і курыў яе колішні муж.

– Гэта ён быў у цябе! Ужо адпачывае!.. – дакараў жонку раўнівец, як толькі пераступіў парог.

Яна ўсё яшчэ трывала. Пра яе пакуты ўведаў брат. Ён, жартаўнік, раіў сястры падараваць мужу вядомую народную песню "А ў цёмным лесе сава кугіча", дзе ёсць дасціпныя словы: "Павесь званочак на падалочак..."

Але ёй было не да жартаў. Апошняй кропляй, што перапоўніла чашу цярпення, сталася мужава рэўнасць да яе зяця. Дачка і зяць прыехалі на лецішча, дзе яна працавала з мужам. Зяць, усцешаны іх дружнай працай, нешта вясёлае сказаў.

– Ты што яму так міла ўсміхаешся? Значыць, ты з ім спіш!

У той жа дзень Ала паехала на Міколаву кватэру, забрала свае рэчы і вярнулася дадому.

Ён спрабаваў яе запалохаць, пагражаў забойствам. Але давялося неяк пракаўтнуць такі горкі камячок.

*1–2. 01. 2008*

# ПРЫЛІПЫ, або Пляжны сезон

## Іранічны маналог

Я – маладая, нават юная, студэнтка. Кажуць, прыгожая. Можа, таму прыйшла да нечаканага адкрыцця: мужчыны, як правіла, – донжуаны. Канчатковыя высновы зрабіла амаль што на экватары, за паўтары тысячы вёрстаў ад майго даволі ціхмянага горада.

Праўда, і ў ціхмяным горадзе, як і ў ціхім балоце, як кажуць, чэрці водзяцца. І тут прыстаюць – хто ў трамваі, хто на прыпынку, а хто і проста на вуліцы, але з выглядам прыстойнасці; шчыруюць мужычкі: адзін кампліментамі лашчыць слых, другі плясне мёдам па сэрцы запрашэннем у парк ці на возера, трэці, раб вядомага Бахуса, пацешыць сваім прызнаннем!..

Прыпыняюцца і, як люстэрка, бліскучыя “Мерседэсы” – ж-ж-ж-ык! – ажно з-пад колаў дымок, і прычасаная галава высунецца дый запросіць гэтак інтрыгуюча:

– Зачэм ідзёш, ножкі б’ёш, давай падвязу – не пажалэеш…

Здараецца нават, які-небудзь блудлівы шукальнік шчасця, натрапіўшы па тэлефоне выпадкова на дзявочы голас, пачынае выдаваць дыферамбы…

Ды ўсё гэта, мае даражэнькія, блякне перад паўднёва-пляжнымі гісторыямі. Мусіць, тут ад спякотлівага сонца і ад моцных хваляў марскіх п’янее неўгамонная донжуанская кроў…

Вось ён, бераг марскі, з пяском залацістым пляж, дзе кожны адам шукае сабе евачку, дзе га-

рачыня – пекла натуральнае, кінь у пясок яйка – зварыцца. А донжуанам тут рай. Здавалася б, чаго ўжо так шчыраваць; купаліся б сабе, набіраліся б энергіі сонца і мора. Ды дзе там! У іх і свая энергія плешча, як марскі прыбой, а спрактыкаванае вока не дрэмле. Адзін з іх – зусім побач. Выгляд у яго камічны: амбал, аблезлы, як і яго машына, на якой, ігнаруючы забаронныя дарожныя знакі, пад'ехаў да самага мора. Жывот у яго прыкметна правісае на плаўках. Кароткімі рукамі ён трымаецца за канцы ручніка, накінутага на плечы. Скроні заінеліся першаю сівізной, гадоў яму разы ў тры больш, як мне, але звяртаецца на "вы". Пытанні – самыя банальныя: адкуль… дзе… і каторы дзень на моры?..

– І што, вы яшчэ ні разу не "адзначыліся"? Як жа так?! Быць на поўдні і не адзначыцца – гэта нават не цікава, лічы, гарыць адпачынак.

Усё, разведка завершана, пачынаецца "штурм":

– Пайшліце са мной, тут ёсць лясок. – Вы першая з пляжа, я – чуць пазней: канспірацыя, каб маманя не западозрыла…–ківае галавой у бок жанчыны, распластанай, рыхтык камбала, на пяску; ля яе забаўляюцца двое дзяцей – Бог ведае, унукі ці, можа, позція дзеці.

– Я нікуды не пайду.

– Ну і дарма, я вас сяму-таму навучыў бы… У вас які хлопец? Малады? Не, гэта не тое! Са мной – зусім іншае.

– Ды што вы, дзядзечка, "маманя" сварыцца будзе!..

Пацярпелы фіяска брыдзе пад казырок навесу.

Пасля палудня, як толькі выйшла я з мора, перада мною вырасла сухаватая, але перасмажаная на сонцы постаць новага “рыбака”. У яго – чорныя вусы і чорная бародка.

– Вы мне вельмі спадабаліся, хадзем да мяне ў машыну, пабалакаем, – робіць ён свае захады. – Я кнігу пішу пра такіх як вы. Хачу ведаць сёе –тое пра вас, вашы адносіны да процілеглага полу. З якім хлопцам жывяце? Што з ім адчуваеце? І ці многа арлоў было?.. Гэта я, калі ў турме сядзеў, пачаў думаць ад няма чаго рабіць…

“Вар’ят” – думаю я і “здымаюся з якара”.

Назаўтра я – на іншым пляжы, сяджу пад навесам. А там як з неба звальваецца малады лавелас атлетычнага целаскладу. Здымаючы з сябе майку, чамусьці падміргвае мне.

– У, – кажа, – я гляджу, вы так загарэлі! Вы даўно тут? Я вось шукаю, дзе сястру ўладкаваць – прыедзе з горада.

Новы прыліпа чымсьці падобны да рыбака, які не надта дбае нават пра нейкую прынаду, каб яе пачапіць на кручок, – карыстаецца, так бы мовіць, нябачным спінінгам, а прынада – ён сам, малады, прыгожы. І вось адна рыбка двухногая ўжо ў яго, як кажуць, на кручку – з ім прыехала з горада. Яна прывабная, а цела ў яе белае, як жывот у рыбы. Ёй на беразе горача – і яна, мерна пакалыхваючы маятнікам бёдраў, пайшла купацца. Тым часам “рыбак” не дрэмле.

– Вы мне так спадабаліся, – звяртаецца да мяне, паглядваючы па баках. – Што, тут няма дзе схавацца? А вось лясок. Пайшлі са мной!

– А чаго?

– Я вас навучу…

– Навучыце сваю каханку.

– Ха-ха, каханка! Толькі ўчора пазнаёміўся. Кажу: “Паехалі на мора”. Яна і паехала. Усё прыстае: то ёй падай марожанае, то завядзі на шашлыкі. Не падабаецца яна мне.

– Што, пражэрлівая?

– Не ў тым справа – не цікавая, вы, адчуваецца, зусім іншая.

– Што, ужо клеішся? – вяртаючыся да свайго лежака, дакарае сяброўка.

– Не звяртайце ўвагі, я з ёю паспеў пасварыцца…

А мора шуміць і шуміць, дорачы сваю шырокую мелодыю кожнай вольнай душы: ш-шах, ш-шах, ш-шах, ш-шах. І я ўжо на шырокай, нікім не занятай лаве ля пансіяната.

Праз імгненне на лаўку насупраць, як машкара, як саранча, налятаюць шпанюкі, сем падлеткаў у шортах. Пасля некалькіх гучных слоў між сабою – адзін да другога (прытворна).

– Што ты крычыш! Дзяўчыне марыць замінаеш.

Тут жа і да мяне:

– Прыгожая, мы вам не замінаем? Нешта раней мы вас не бачылі…

Усе ўстаюць, падыходзяць. Корчаць з сябе культурных сумоўцаў. Ды найбольш ініцыятыўны той, што ў цёмных акулярах, ён стараецца быць падобным да Леанарда дэ Капрыа з “Тытаніка”.

– Вы сёння сюды прыехалі?

– Я не ў пансіянаце, а ў пасёлку.

– О, мы самі з пасёлка, а тут працуем. Пайшлі вечарам у бар! Скажы, дзе ты там жывеш?

– Вы занадта шустрыя.

– У нас зараз аўтобус. Паехалі з намі!

– На семярых падзеліце?

– Не смейся, дай адрас.

– Адрас не магу.

– Замужам?

– Не.

– Ну, мы цябе ўсё адно знойдзем!..

Вось так, мужыкі-спакуснікі. Можаце спаць спакойна: змена ў вас надзейная.

*2000*



# ЗМЕСТ

*Літаратурна-мастацкае выданне*

**Жуковіч** Васіль Аляксеевіч

# ПРАДЧУВАННІ

НАВЕЛЫ, АПАВЯДАННІ,
ІРАНІЧНЫ МАНАЛОГ

Падпісана да друку 01.12.2021.
Фармат 84x108/32. Папера афсетная.
Друк лічбавы. Ум. друк. арк. 6,3.
Наклад 99 ас. Замова 756.

ТАА «Ковчег»
Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі выдаўца,
вытворцы, распаўсюджвальніка друкаваных выданняў
№ 1/381 ад 01.07.2014.
вул. Л. Бяды, 11/1-205, 220040, г. Мінск.
Тэл./факс: (8017) 379 19 81
e-mail: kovcheg_info@tut.by
Instagram: kovcheg_info, Facebook: infoKOVCHEG